PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 38 (2210) Год XLIII | Беласток 20 верасня 1998 г. | Цана 1,20 зл.

## Палітычная матэматыка

Пару тыдняў таму віцэ-прэм'ер Лешак Бальцаровіч аб'явіў свае планы ў справе павышэння падаткаў. У сярэднім падаткі маюць быць павышаны на 2 працэнты. Тое, што грамадзяне будуць вымушаны плаціць вышэйшыя падаткі, не павінна нікога здзіўляць. Уваход у натаўскія структуры патрабуе змены ўсяго ўзбраення польскай арміі. Тое, якое да гэтай пары выпускалася ў Польшчы было дастасавана да нормаў былога савецкага лагера. Інфраструктуру ваеннай прамысловасці ствараецца дзесяткамі гадоў, а Польшча ўступае ў структуры НАТО ўжо праз два гады, таму зразумела, што ўсе цацкі для войска трэба купіць у новых саюзнікаў.

Не здзіўляла б тады, калі б урад толькі аб'явіў, што павышае падаткі таму, што такая патрэба. Ад некалькіх тыдняў усялякія ўраднікі аслупянеламу грамадству паясняюць, што 22 працэнты ад прыбытку абазначае менш чым 19. Багатым, гэта значыць для сябе і сваіх калег, падатак паніжаюць на 13 працэнтаў, аргументуючы, што яны будуць за гэтыя сродкі ствараць новыя месцы працы. Напэўна павышаны будуць усялякія пасрэдныя падаткі, улічаныя ў цану тавараў. Трэба тады спадзявацца, што неўзабаве пачнуць паясняць, што вышэйшая цана газу, вады, ацяплення, бензіну, харчовых прадуктаў з'явілася таму, каб павысіць узровень жыцця найбяднейшым. Адбываецца нейкі адкрыты „шоу" крывадушнасці, параўнальны толькі з тым, што адбывалася ў геркаўскую эпоху.

Нацыянал-хрысціяне з ЗХНу і „Салідарнасці" прапануюць яшчэ цікавейшую падаткавую сістэму — „прасямейны падатак". Той, у каго шмат дзяцей, мог бы разлічваць на ўсялякія падаткавыя льготы. Чым больш дзяцей, тым менш падаткаў. Зразумела, што тых дзяцей вымушаныя былі б карміць і апранаць тыя, у каго, напрыклад, адзін ці двое нашчадкаў.

Пакуль што ўсе партыі рыхтуюцца да „вялікага скоку на публічную касу", якой будзе самаўрадавы бюджэт. Каб было да чаго прысмактацца, трэба яго напоўніць усялякімі падаткамі. Трэба тады таксама спадзявацца, што неадкладна пасля самаўрадавых выбараў не адна гмінная, павятовая, ці гарадская рада прыме пастанову аб новых лакальных платах і падатках. Не здзіўляў бы ўжо хіба нават падатак ад колькасці вокнаў у хатах ці сабачай буды на панадворку.

Яўген Міраповіч



*Міхал Мінцэвіч — аўтар выстаўкі „Пяць стагоддзяў Орлі і аколіц".*

# Артыст непрафесіянальны

Ада Чачуга

Пра **выстаўку Міхала Мінцэвіча**, наладжаную ў будынку арлянскай школы 5 верасня, найлепш сказаў мне мясцовы бізнесмен Марк Хмялеўскі: **„Яму ўдалося тое, што дагэтуль нікому не ўдалося: звярнуць увагу на Орлю"**.

Міхал Мінцэвіч, „артыст непрафесіянальны", як акрэсліў ён сам сябе, быў бы мо да сёння тэхнікам-механікам, знаўцам будовы машын, калі б не было рэдукцыі штатных адзінак.

Тады заняўся тым, што засталося недзе на самым дне яго сэрца і вырвалася, быццам птушка на волю, пры першай нагодзе.

Пачаў маляваць. Ужо ў войску, якое адбыў пасля школы, рысаваў алоўкам партрэты сваёй дзяўчыны. Ёй гэта падабалася. А цяпер малюе фарбамі. Сам гаворыць, што лепш за ўсё адчувае сябе ў ролі капіроўшчыка.

Ад малявання да фатаграфавання вельмі блізка. Міхал хацеў падглядаць прыроду: як разліваецца рака вясною і зелянее ўсё навокал, як залаціцца лісце ўвосень і белым беліцца зямля зімою...

А галоўнае — зафіксаваць людзей, якія цябе акружаюць, іх жыццё, іх працу, сустрэчы, а да таго цэрквы, крыжы, магілы. Схапіць той момант, адзін-адзіны, які ўжо не паўторыцца, не вернецца, і пакінуць яго для памяці нашчадкаў.

Пісанне прыйшло крыху пазней. Пісаць я пачаў дзякуючы Барбары Цірук і Аліцыі Лязар з Польскага радыёвяшчання ў Беластоку, расказвае мне Міхал Мінцэвіч. Цяпер яны ў тэлебачанні. Вечарамі я маляваў і слухаў радыё. Я пачаў пісаць ім лісты, падказваў тэмы. Пасля Юрка Гаўрылюк, ён гісторык, заахвоціў мяне да супрацоўніцтва з часопісам украінцаў Падляшша „Над Бугом і Нарвою", дзе ў пару нумарах паявіліся мае тэксты. А мне хацелася, каб з беларускага боку нехта падаў мне руку, уздыхае Міхал. Нарэшце пару гадоў таму я наладзіў супрацоўніцтва з „Часопісам" і „Нівай".

Калі ў „Ніве" рэгулярна пачалі паяўляцца артыкулы Міхала Мінцэвіча, тутэйшая настаўніца беларускай мовы Анна Шыманская ўсклікнула: „Глядзіце, наступіла адраджэнне: пішуць пра Орлю!" Людзі сталі чакаць „Ніву", вышукваді, што там сёння напісалі пра іхняе мястэчка, а мо пра іх ці пра суседа нешта ёсць...

А Міхал пісаў пра ўсё, што дзеялася вакол яго, пра цікавых людзей, выцягваў з памяці старажылаў апошнія крышынкі гісторыі, пісаў пра юбілей арлянскай царквы і дзеі тутэйшай сінагогі, пра пажарнікаў і скаўтаў, пра сустрэчу з паэтэсай Надзеяй Артымовіч і пра многае-многае іншае.

Міхал няшмат расказа... А людзі цешацца і кажуць, што за два апошнія гады „Ніва" адрабіла малое зацікаўленне Орляй. Жартуюць: некаторыя на выстаўку хадзілі ўжо ад учора, а Марыя Адзіевіч, член мастацкага калектыву „Арляне", усміхаецца ў адказ: ну, я думала, што ўжо ўчора адкрыюць.

Выстаўка фотаздымкаў і артыкулаў Міхала Мінцэвіча заняла ў школе пакой для навучання рэлігіі. Афармлена яна вельмі акуратна, а ўсё рабіў сам Міхал. Знайшліся і спонсары сярод мясцо-

[працяг ☞ 8]

## Беларусь — 2000 гадоў

Рада Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" 18 чэрвеня 1998 г. прыняла «Зварот да грамадскасці Беларусі і беларусаў у замежжы з нагоды завяршэння другога тысячагоддзя „Беларусь — 2000 гадоў"». Гэты дакумент разам з праграмай быў накіраваны да ўсіх беларускіх суполак у замежжы з просьбай падтрымаць ініцыятыву, увесці свае прапановы і далучыцца да гэтай справы.

[дэталі ☞ 2]

## Лукашэнка стварае заслону...

На беларуска-расейскай мяжы раптам вырасла жалезная заслона для ўсялякага тавараабмену. Можна зразумець імперыялістаў, якія пабачылі, што ў расіян няма чым плаціць, зразу спынілі пастаўку тавараў. Але калі так паводзіць сябе першы сябра Расіі, тады найлепш відаць, што г.зв. дружба народаў — усяго толькі лозунг.

[каментарый ☞ 4]

## Візы і злачыннасць

4 верасня Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку склікаў прэс-канферэнцыю, прысвечаную новым візавым тарыфам для грамадзян Польшчы і праблемам бяспекі грамадзян РБ у нашай краіне.

[інфармацыя ☞ 4]

## На бацькаўшчыне Уладзіслава Казлоўскага

Гісторыя беларусаў Сакольшчыны пярэчыць прынятай на Беласточчыне схеме, паводле якой кожны католік павінен быць палякам. Уладзіслаў Казлоўскі быў бойкім беларускім нацыянальным змагаром. У час нямецкай акупацыі выдаваў у Менску „Беларускі голас". Загінуў ад бальшавіцкай кулі ў 1942 годзе.

[рэпартаж ☞ 5]

## Забойства ў Бандарах

На досвітку ў нядзелю, 17 жніўня, у Бандарах быў смяротна пабіты мясцовы дзевятнаццацігадовы юнак Павел Бура. Зрабілі на яго засаду. Знячэўку ўдарылі парканінаю па галаве, а калі ён упаў, сталі біць бейсбольнымі кіямі. Нехта чуў, як адзін з бандытаў крыкнуў: Zabij Buraka!

[крымінал ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

## Еўрапейская пілігрымка

**(нататкі аб святкаванні 80-х угодкаў БНР у беларускім замежжы)**

*(заканчэнне; пачатак у 29 н-ры)*

**На Радзіме**

Ужо сцямнела, калі мы 6 сакавіка ўвечары прыехалі ў Мінск. Для мяне асабіста заўсёды вялікае задавальненне — вяртацца дахаты пасля далёкіх вандровак. Якіх бы дзівосаў не нагледзеўся, а свая зямля даражэй. Толькі б жыццё тут наладзіць чалавечае. Была б у нашых людзей свабода, даўно ўжо адбудавалі б сваю краіну, дагледзелі б і давялі б усё да ладу. Усе мае сябры па вандроўцы таксама былі задаволены вяртаннем. Не верылася, што доўгая дарога шчасліва завяршылася.

Для нашага Згуртавання гэта была яшчэ адна магчымасць падтрымаць кантакты з заходнім беларускім замежжам, пабачыцца з людзьмі, правесці перамовы, абмеркаваць план далейшага супрацоўніцтва.

Адзін з галоўных вынікаў нашай вандроўкі акрэсліўся трохі пазней, праз паўтара месяца. 14 мая ў газеце „Звязда" была апублікавана невялікая нататка Аляксандра Аляксеева „Бяссілле «рэаніматараў»", дзе зроблена спроба падсумаваць вынікі святкавання 80-х угодкаў БНР, у тым ліку і ў беларускім замежжы. Аўтар спасылаецца на вынікі аналізу, зробленага Міністэрствам замежных спраў Беларусі, якое, бачыце, прыйшло да высновы, што „ў замежнай грамадскасці адсутнічае цікавасць да юбілею дзяржавы, якая так і не была створана". Аўтар гаворыць аб тым, што святкаванні ў беларускім замежжы былі арганізаваны слаба, у Празе быў арганізаваны толькі пікет на Вацлаўскай плошчы, а прыёму ў Лондане не пашанцавала, бо пра гэта не паведамлялася ў лонданскай прэсе. Адным словам, дзяржаўная газета паведаміла грамадзянам Беларусі, што ніякага шырокага святкавання юбілею БНР у замежжы не адбылося. Спадзяюся, што гэты артыкул пераканаў чытачоў у адваротным. Падумалася, што як добра, што мы можам цяпер выступіць сведкамі таго, як было на самай справе, пераказаць людзям праўду. Дзеля гэтага і варта было самім пабываць на святах. Мы ўсе бачылі сваімі вачыма, а якую ж інфармацыю маглі даць для аналізу ў Міністэрства замежных спраў беларускія дыпламаты, якія нідзе не прысутнічалі і не падзялілі радасць са сваімі суродзічамі ў розных краінах. Нашы землякі не забыліся на галоўныя даты ў лёсе нацыі і належным чынам адсвяткавалі юбілей дзяржаўнай незалежнасці краіны свайго паходжання. Па інфармацыі, якую мы атрымалі, годныя святочныя імпрэзы былі арганізаваны беларусамі ў ЗША, Канадзе, у далёкай Аўстраліі. Сёння мы павінны выказаць ім вялікую ўдзячнасць за гэта, а не насміхацца на старонках „Звязды" над тым, што не з такім вялікім размахам былі арганізаваны святочныя мерапрыемствы. Нашы суродзічы зрабілі свята па сваіх магчымасцях, галоўнае, што ад шчырага сэрца і з вялікай любоўю і павагаю да той вялікай даты ў нашай гісторыі, якою павінен ганарыцца кожны народ у свеце. Для іх Беларусь, яе дзяржаўная незалежнасць — святыя паняцці, вечны боль і вечны клопат. На жаль, гэтыя высокія пачуцці, падобна, зусім незразумелыя тым, хто рабіў свае чыноўніцкія аналізы ў Міністэрстве замежных спраў.

**Ганна Сурмач**

## Беларусь — 2000 гадоў

Рада Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" 18 чэрвеня 1998 г. прыняла **Зварот да грамадскасці Беларусі і беларусаў у замежжы з нагоды завяршэння другога тысячагоддзя „Беларусь — 2000 гадоў"**. Гэты дакумент быў накіраваны да ўсіх беларускіх суполак у замежжы не толькі для інфармацыі, але і з просьбай падтрымаць ініцыятыву, увесці свае прапановы і далучыцца да гэтай справы.

Аўтары звароту сцвярджаюць, што для беларускага народа мінулыя дзве тысячы гадоў былі плённым, гераічным і драматычным часам, што на працягу гэтага перыяду сфармаваўся беларускі этнас, узнікла і атрымала развіццё дзяржаўнасць. Далей, пасля кароткага гістарычнага нарысу, які канчаецца падзеямі дзевяностых гадоў, у звароце чытаем:

„Такім чынам будаўніцтва і захаванне сваёй дзяржаўнасці з'яўляецца галоўным дасягненнем беларусаў на гістарычным шляху. Далёка не ўсе народы на Зямлі здолелі стварыць і захаваць свае дзяржавы. Будзем памятаць, што ўласная дзяржаўнасць з'яўляецца найвялікшым здабыткам і самай высокай каштоўнасцю для любой нацыі ў свеце. (...)

Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" выступае з ініцыятываю адзначыць у агульнанацыянальным маштабе завяршэнне двухтысячагоддзя і наступленне новага гістарычнага этапу. Дзеля дастойнага ўшанавання дасягненняў беларускага народа за пройдзены гістарычны перыяд прапануем ажыццявіць спецыяльную праграму мерапрыемстваў, скіраваных на замацаванне нашых здабыткаў у галіне гісторыі, культуры, навукі, асэнсавання месца беларускай нацыі ў сусветнай цывілізацыі і вызначэння далейшага шляху".

У прыкладзенай да звароту праграме „Беларусь — 2000 гадоў" прапануецца шэраг мерапрыемстваў з мэтай абазначыць і стварыць часткова або поўнасцю недастаючыя сёння элементы атрыбутыкі незалежнай краіны. На першым месцы ставіцца стварэнне серыі помнікаў для ўшанавання важных гістарычных падзеяў і выдатных асоб — Рагвалоду, Рагнедзе і Ізяславу, Усяславу Чарадзею, Еўфрасінні Полацкай, Міндоўгу, Вітаўту, Льву Сапегу, Тадэушу Касцюшку, Кастусю Каліноўскаму, Зміцеру Жылуновічу, Аляксандру Чарвякову ды дзеячам БНР і канфесійным змагарам за духоўнае і нацыянальнае адраджэнне.

У праграме прадугледжана выданне беларускіх летапісаў і хронік, навуковай і навукова-папулярнай гістарычнай літаратуры ды памятнай кнігі „Беларусь — 2000 гадоў", правядзенне навуковых даследаванняў, форумаў і канферэнцый па гісторыі дзяржаўнасці і культуры Беларусі. Намечаны таксама рэстаўрацыя і захаванне архітэктурных помнікаў, у тым ліку замкаў, храмаў, манастыроў, старажытных гарадзішчаў, стварэнне новых музеяў і музейных комплексаў ды рэканструкцыя Віленскага беларускага музея імя Івана Луцкевіча. Аўтары праграмы намервающца актывізаваць дзеянні па пошуках Крыжа св. Еўфрасінні Полацкай і вяртанні на радзіму Скарынаўскіх выданняў ды пабудаваць Храм Усіх Святых Зямлі Беларускай. У праграме запісана яшчэ выданне паштовых марак, канвертаў, календароў, значкоў, паштовак, падрыхтоўка серый мастацкіх і дакументальных фільмаў, відэакліпаў, правядзенне выставаў і выданне сувенірнай і побытавай прадукцыі з сімволікай 2000-годдзя.

Для рэалізацыі праграмы ЗБС „Бацькаўшчына" прапануе стварыць грамадскі Арганізацыйны камітэт і звяртаецца да беларускай грамадскасці, да беларусаў у замежжы з прапановай падтрымаць гэту ініцыятыву. У выпадку станоўчых адносін да ідэі Звароту яго аўтары просяць прапанаваць кандыдатуры ад паасобных арганізацый для ўключэння ў Аргкамітэт па адрасе: Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына", 220050 Беларусь, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15.

## Беларусь і В'етнам — пашырэнне эканамічных сувязей

29 жніўня г.г. Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з в'етнамскім прэзідэнтам Тран Дук Луонгам, які пабываў у Беларусі з трохдзённым візітам (ІТАР-ТАСС). Пасля сустрэчы беларускі прэзідэнт сказаў, што Беларусь і В'етнам намерваюцца да 2000 года павысіць узаемны гандлёвы абарот на 1000% (прыблізна 200 млн. дол. ЗША у год). А. Лукашэнка дадаў, што В'етнам „можа стаць мостам для прамоцыі Беларусі на рынках Азіі і Ціхаакіянскага рэгіёна, а Беларусь можа стаць такім жа мостам для прамоцыі в'етнамскіх інтарэсаў у Еўропе". А. Лукашэнка падкрэсліў, што і Беларусь, і В'етнам праводзяць „падобную" ўнутраную і замежную палітыку.

*RFE/RL Newsline, 31.08.1998*

## Рост заработнай платы

25 жніўня г.г. Беларуская служба Радыё „Свабода" паведаміла, што прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка заявіў аб павышэнні мінімальнай заработнай платы для дзяржаўных чыноўнікаў. Павышэнне адбудзецца ў двух этапах: ад 1 лістапада г.г. мінімальная заработная плата павысіцца на 20%, а ад 1 студзеня 1999 г. — на 25%. Цяпер мінімальная зарплата ў Беларусі — 250 тыс. беларускіх рублёў (прыблізна 4 дол. ЗША).

*RFE/RL Newsline, 26.08.1998*

## Памяншаецца замежны гандаль Беларусі

1 верасня г.г. БелаПан паведаміў, што беларускі віцэ-міністр знешніх эканамічных сувязей Валеры Садоха заявіў аб узрастаючых цяжкасцях у спаборніцтве беларускіх вытворцаў на замежных рынках. Міністр спаслаўся на ўпадак экспарту ды рост адмоўнага балансу ў замежным гандлі. У першай палове гэтага года — у параўнанні з такім жа перыядам мінулага года — беларускі экспарт у Канаду ўпаў на 67%, у Ізраіль — на 58%, а ў Польшчу — на 33%. Адмоўны баланс Беларусі ў замежным гандлі з Нямеччынай дасягнуў 250 млн. дол. ЗША, з Украінай — 226 млн. дол. ЗША, а з Польшчай — 70 млн. дол. ЗША. В. Садоха выступіў з заклікам да беларускіх пасольстваў, каб зрабілі яны ўсё магчымае дзеля павелічэння замежнага гандлю „нягледзячы на цяжкія ўмовы міжнароднай ізаляцыі [Беларусі]".

*RFE/RL Newsline, 2.09.1998*

## Славянская еднасць — лякарства на расійскія хваробы

28 жніўня г.г. прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, на заканчэнне свайго трохдзённага візіту на Крыме, сказаў журналістам, што Беларусь і Украіна змогуць дапамагчы Расіі ў пераадольванні яе крызісу, калі тры былыя савецкія рэспублікі болей да сябе наблізяцца. „Збліжэнне трох славянскіх краін будзе істотным фактарам стабілізацыі сітуацыі не толькі ў Расіі, але і ў Беларусі і Украіне" — працытаваў прэзідэнта Інтэрфакс. А. Лукашэнка сказаў, што фінансавую катастрофу ў Расіі можна было прадказаць, а расійскі ўрад „павінен быў перасцерагчы Украіну і Беларусь". Паводле А. Лукашэнкі, цяперашняе сітуацыя патрабуе трох прэзідэнтаў, каб зрабілі яны „крок у сваім напрамку. Усе трое будуць несці адказнасць, калі не ўдасца выкарыстаць гэтай адзінай нагоды".

*RFE/RL Newsline, 31.08.1998*

## МВФ — разбуральнік нацыянальнай эканомікі

28 жніўня г.г., вярнуўшыся з Крыма ў Мінск, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сказаў журналістам, што прапановы Міжнароднага валютнага фонду „ніякім чынам не аказаліся універсальным сродкам на эканамічныя рэформы". Паводле яго, „[прапановы МВФ] імкнуцца разбурыць нацыянальную эканамічную сістэму постсавецкіх рэспублік". А. Лукашэнка дадаў, што ў час свайго візіту на Крыме двойчы сустракаўся з выконваючым абавязкі прэм'ер-міністра Расіі Віктарам Чарнамырдзіным, але не сустрэўся са старшынёю МВФ Мішэлем Камдэсю.

*RFE/RL Newsline, 31.08.1998*

## Меншы ўраджай

1 верасня г.г. беларускі міністр сельскай гаспадаркі Іван Шакола сказаў, што неспрыяльнае надвор'е ўдарыла па сёлетняй уборцы збожжа. Да гэтай пары ўдалося сабраць 77% ураджаю — у такім жа перыядзе мінулага года было сабрана 92% ураджаю. У Беларусі разлічваюць, што агульны ўраджай дасягне 5,8 млн. тон — на 1 млн. тон менш чым у 1997 г. Сярэдні ўраджай складзе 2,34 тоны з гектара (у мінулым годзе — 2,7 тоны з гектара). І. Шакола заявіў, што ў гэтым годзе Беларусь удвая павялічыць імпарт збожжа (да 1,5 млн. тон), каб кампенсаваць страты ва ўраджаі.

*RFE/RL Newsline, 2.09.1998*

# Мікола Гайдук (1933-1998)

Беларускі грамадска-культурны рух у Польшчы пацярпеў непапраўную страту — 2 верасня г.г. на 66 годзе жыцця раптоўна памёр Мікола Гайдук, вядомы журналіст, пісьменнік, фальклярыст, краязнавец, асветнік.

Нарадзіўся Ён 29 мая 1933 года ў Кабылянцы Міхалоўскай гміны ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове ў 1951 г. два гады працаваў у мясцовай гміннай управе. З 1953 г. вучыўся на філалагічным факультэце ва універсітэтах Растова-на-Доне, Ленінграда і Мінска. Закончыўшы ў 1959 г. Беларускі дзяржаўны універсітэт паўгода працаваў у нашай рэдакцыі, а з 1 верасня 1959 г. стаў працаваць у Бельскім беларускім ліцэі імя Тарашкевіча, спачатку як настаўнік беларускай і лацінскай моў, а з 1965 г. — як дырэктар ліцэя. Адначасова ў 1959-1964 гг. выкладаў беларускую літаратуру на беларускім аддзяленні завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. У „Ніву" вярнуўся ў 1971 г. і працаваў у нашай рэдакцыі да паловы снежня 1988 г. — да часу адыходу на пенсію па стане здароўя. У 1986-1988 гг. быў намеснікам галоўнага рэдактара нашага штотыднёвіка.

Дэбютаваў у „Ніве" 18 жніўня 1957 г. двума лірычнымі вершамі падпісанымі псеўданімам Міка. Паэзію і апавяданні друкаваў яшчэ ў „Беларускіх календарах" і альманахах літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Выдаў паэтычны томік „Цішь" (1988), зборнікі казак і легенд „Аб чым шуміць Белавежская пушча" (1982), „Białowieskie opowieści" (1990), „Белавежскія былыцы і небыліцы" (1996), „Легенды Беластоцкай зямлі" (1997). Апублікаваў на старонках „Нівы" і „Беларускага календара" каля 600 уласных запісаў беларускіх песень з нотамі, якія ўвайшлі ў зборнік „Песні Беласточчыны" (1997). Ягоныя артыкулы на тэму беларускага фальклору друкаваліся ў навуковых часопісах. Быў сааўтарам (з жонкай Лідзіяй) шэрагу падручнікаў па беларускай мове для III, IV і V класаў (1962-1987 — па тры выданні) і „Граматыкі беларускай мовы для V-VIII класаў" пачатковых школ.

У сваёй творчасці шмат увагі аддаваў гістарычнай тэматыцы. У гістарычных апавяданнях і эсэ прадстаўляў даўніну заходніх тэрыторый беларускіх земель, а плёнам яго пісьменніцкай творчасці ў гэтым жанры сталі кніжкі „Трызна" (1991) і „Паратунак" (1993).

Супрацоўнічаў са штомесячнікамі „Czasopis" і „Przegląd Prawosławny". У гэтым апошнім выданні рэдагаваў беларускую старонку.

Светлая памяць аб таленавітым пісьменніку і выдатным журналісту назаўсёды застанецца ў памяці Ягоных чытачоў і калег па пяру.

**Рэдакцыя**

## Адышоў

*Мікалаю Гайдуку*

Адышоў ад нас на векі.
Цяжка слова сказаці.
Не спаткаю я Цябе.
Каб руку падаці.
Ты быў настаўнік для мяне,
Ад Цябе я вучыўся,
Вершы я пісаць пачаў
Ды роднай мовы не забыўся.

Буду Цябе я ўспамінаць
Кожны дзень у хаце,
Каб Табе лёгка было
У сырой зямлі ляжаці.
Не забуду Тваіх слоў
На кожным спатканні,
Як з Табою гутарыў
У верасні ці ў маі.

**Мікалай Лук'янюк**

# Смутак

Калі даведаўся я пра смерць Міколы Гайдука, дык мне на сэрца быццам камень лёг. Прыгадаў я апошнюю маю сустрэчу з ім.

Было гэта нейкія дваццаць гадоў таму, калі Мікола Гайдук наведаў мяне ў летні прысвятак і папрасіў, каб пазнаёміць яго з бабулькамі, якія помняць нашы старыя народныя песні; ён запісваў іх на плёнку. У Дубічах-Царкоўных пайшлі мы да Зіны Гіль і яна праспявала нам сваім магутным голасам нашы рагулькі. Былі гэта асаблівыя песні, пераважна з салёным зместам. Я падштурхоўваў плячом спадара Гайдука, мовячы, што яны не падыходзяць для яго. Аднак ён адказаў мне:

— О, не! Хай будуць, я такіх яшчэ не маю.

Пасля мы паехалі ў вёску Тафілаўцы да Івана Галко, маці якога Устынка ведала шмат старых песень. Хаця ёй было каля дзевяноста гадоў, памяць і голас яна мела добрыя. Стала бабулька спяваць для запісу на плёнку, а я за той час абслужыў вёску са сваёю паштальёнскай сумкай. Пасля заканчэння запісу песень Іван Галко паставіў на стол паўлітроўку; мы сталі адмаўляцца. Аднак спадар Галко рашуча заявіў:

— Вы сёння ў мяне самыя дарагія госці і буду гнявацца, калі не сядзеце са мною за стол падзяліцца нашымі беларускімі думкамі.

Адбылі мы гэтую гасцінную частку як у роднай хаце, горача падзякавалі гэтым добрым людзям і развіталіся па-беларуску. Мікола Гайдук паехаў у сваю дарогу, а я ў сваю. І хто ведаў, што гэта апошняя нашы сустрэча і развітанне.

Шкада такіх людзей-патрыётаў, бо ніхто іх не заступіць ні ў пяры, ні ў думках. Шкада, што не будзе каму прадаўжаць на старонках „Нівы" цыкл „Нашы карані". За сваё жыццё Мікола Гайдук шмат здзейсніў, а яго цудоўныя кнігі ніколі не страцяць вартасці. Таксама і беларускія падручнікі, якія напісаў ён разам са сваёй жонкаю Лідзіяй, будуць яшчэ доўга служыць людзям, якія ў сэрцы мілуюць роднае слова.

Што ж, відаць такія выдатныя людзі і на Небе ў не планаваным на зямлі часе патрэбныя.

Няхай Табе, дарагі Дружа, зямелька будзе пухам, а над магілаю лётаюць матылькі і ў праменні сонца спявае салавейка.

**Мікалай Панфілюк**

# Тут — мой кут гаючы

*Ці зразумець сум паэта*
*ля роднай мяжы,*
*Песню якому ўжо даспяваць*
*не паспець...*
*Анатоль Дэбіш*

„Колькі сілы ў Вас! Друк, кнігі, радыёперадачы... Каб толькі часу хапала! Чаго ж Вам пажадаць... — задумвалася я на 60-годдзе Міколы Гайдука. Гэта было 5 гадоў таму. А ён адказаў: „Слабенькае ў мяне здароўе, Мірачка, слабенькае... Я не ведаю, ці на працягу гадоў сваёй свядомай працы я меў тры дні цалкам вольных, калі не чытаў, не пісаў, а так сабе паляжаў... Мне хацелася б яшчэ выдаць зборнік маіх песень, што я іх сабраў... (...) А ўсяго разам я не дам рады зрабіць... Я ведаю, што перад сабою маю ўжо нямнога часу..."



Выйшлі тыя „Песні Беласточчыны" ў Мінску, тыя, што збіраў дзесяцігоддзі, апрацоўваў, рыхтаваў (праўда, не дапільнаваў — перарабілі мінскія „спецыялісты" на свой капыл). І выйшаў яшчэ „Паратунак", і кніга пра брэсцкую унію, і „Легенды Беластоцкай зямлі" ў Беластоку, і „Белавежскія былыцы і нябыліцы" ў Мінску... Мікола Гайдук, стаўшы пенсіянерам, працаваў за трох, яшчэ болей чым раней. І таму адчуваецца такая страта, быццам вырвала вялікую глыбу з нашае тут зямлі. Здаецца, вось-вось адчыняцца дзверы ў „Ніве", „Часопісе" і „Гарадоцкі навінах", у „Фосе", у „Przeglądzie Prawosławnym" і пачуем характэрную інтанацыю, і ўбачым чалавека, цяпер з патрыярхальнай сівай барадою, які прыйшоў не з пустымі рукамі. Да мяне, хоць праводзіла я з сябрамі спадара Міколу на вечны спачын, усё не даходзіць, што яго няма. І толькі калі ў рэдакцыі глянем на памятны букецік з сухіх ужо ружаў, перавязаны бел-чырвона-белай стужкай, якую Мікола прынёс нам быў на Свята, успамінаецца наш апошні дарунак Яму — вянок з бел-чырвона-белых ружаў на свежай яліне, такі адметны ад таго мора кветак і вянкоў, якія прынеслі сябры і сваякі, і ўсё не верачы ў страту складвалі на маленькі копчык шэрага пясочку, за магілай Рамана і Марыі — бацькоў Міколавых, на праваслаўным могільніку на Выгодзе ў Беластоку. Гара кветак і яліны, агонь, сонца, вецер ужо асенні. „Гэта быў страсны чалавек, так жыў і пісаў... — сказаў, прыйшоўшы нядаўна пасля доўгай непрысутнасці Збышэк Насядка, наш сябра-паляк, таксама чалавек зямлі і пяра. — Нельга ж так пісаць, за кожным разам быццам сабе кроў пускаючы. Tak, to był namiętny człowiek i pisarz".

Чалавек, пісьменнік. Беларус. Збіральнік роднага па крапельцы, па гарошынцы. Дзеяч ад слова „дзеянне". Не „актывіст", хутчэй „актывагар". Настаўнік. З яго падручнікаў вучыліся мы, якія сталі яго калегамі, хоць крышачку набраўшыся з яго імпэту і пільнасці. „Сваімі ведамі і думкамі хацеў я падзяліцца з іншымі. Калі я адчуваў, што мы тут спрадвечныя, то хацеў гэтай радасцю падзяліцца з іншымі. Людзі, мы жывём на сваёй зямлі, мы — не прыблуды, не чужынцы!" — успамінаюцца мне ягоныя словы. „Наша гісторыя вось у тым, тут шукайма нашага!"

Колькі ў Міколы Гайдука было яшчэ планаў! Завяршыць цыкл „Карані", скласці наступны зборнік набожных беларускіх вершаў, працягваць выдаванне беларускай старонкі ў „Przeglądzie Prawosławnym", дапамагаць рэдагаваць часопіс „Фос", у „Часопісе" — між іншым „Хронікі мясцовасці" і прадстаўленне забытых волатаў нашай беластоцкай беларускай гісторыі, перакласці на родную мову падляшука Іпаліта Краскоўскага, скласці самавучак беларускай мовы. І праца, здавалася б, малазначная, як звычайнага-незвычайнага парафіяніна-хрысціяніна, руплівая і набожная, з мэтай пашырання веды і веры ў праваслаўнай грамадзе. Мітрапаліт Сава аацаніў гэта, развітаўшыся шкадобнымі словамі, якія прагучалі над натруджаным целам Міколавым. Але для хрысціяніна не страшны пераход у бок Сапраўднага Святла. Прыгожае Вы мелі жыццё, не змарнавалі таленту, не закапалі ў зямлю, не схавалі ад злодзея, а размножылі. Да пабачэння, дзядзька Мікола! Маем надзею, што спрыяць нам будзеце з таго боку быцця, каб не змарнавалася тое, што ўдалося Вам уратаваць. Адышлі Вы ад нас там, дзе набіралі моцы і натхнення — у лесе, на сваіх сцежках, у сваім куце гаючым.

**Міра Лукша**

*Фота Яўгінні Палоцкай*

Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку выказвае смутак у сувязі са смерцю вядомага беларускага пісьменніка і публіцыста **Мікалая Гайдука** і шчырыя спачуванні сям'і і блізкім памёршага.

Генконсульства аддае пашану шматгадовай працы гэтага выдатнага чалавека на карысць развіцця беларускай культуры сярод беларусаў у Польшчы і па-за яе межамі і захавае аб Ім светлую памяць разам з усімі, хто Яго ведаў.

**Генеральны консул РБ у Беластоку Мікалай Крэчка**

Сям'і і блізкім шчырыя спачуванні з прычыны заўчаснай смерці
**Міколы ГАЙДУКА**
выказвае Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай.

Сустрэча ў Вільні

# Пару слоў з Сямёнам Шарэцкім



*Лявон Баршчэўскі (БНФ), старшыня Вярхоўнага Савета XIII склікання Сямён Шарэцкі і Радзім Гарэцкі (ЗБС „Бацькаўшчына").*

**Міра Лукша:** Вы на II З'ездзе беларусаў Балтыі як беларус і як палітык. Цэнтрам вашага сэрца — Навагрудчына, а Вільня яднае ўсіх нас, беларусаў. Ваша асоба на Захадзе асацыюецца з уладай Рэспублікі Беларусь, але тае ўлады ў вас няма.

**Сямён Шарэцкі:** У апошнія дні (ліпень) у Капенгагене на АБСЕ яшчэ раз пацвердзілі сваё рашэнне аб тым, што адзіным заканадаўчым легітымным органам у РБ з'яўляецца наш Вярхоўны Савет, і прынялі нашу дэлегацыю, а дэлегацыя лукашэнкаўская была выстаўлена з залы, як незаконная.

**М. Л.:** Як на гэта адрэагавалі сённяшнія ўлады?

**С. Ш.:** Ведаеце, дыктатарскі рэжым — ён заўсёды прымяняе такія метады ў барацьбе як ілгунства, хлусня, пагрозы — метады антыканстытуцыйныя, амаральныя.

**М. Л.:** Якія ў вас адносіны з суседзямі — Летувай, Польшчай? У Летуву цяпер *балтарусам* не лягчэй уехаць, як на Захад...

**С. Ш.:** У Вільні я сустрэўся з Вітаўтасам Ландсбергісам. Размаўлялі мы гадзіну, абмяркоўвалі нашы ўзаемныя адносіны паміж Беларуссю і Летувай, а таксама гэту сітуацыю, якая склалася ў Беларусі. Некалькі слоў сказаў мой размоўца пра тыя рэформы, якія здзяйсняюцца ў Летуве па дэмакратызацыі некалі таталітарнага грамадства. Гаварыў, вядома, больш той, каму баліць. З Польшчай і яе ўладай нашы адносіны добрыя, ёсць узаемапаразуменне і з парламентам, і з прэзідэнтам. Мы вельмі ўдзячны кіраўнікам Польшчы за тое, што ў іх хапіла мужнасці запрасіць нашу дэлегацыю афіцыйна наведаць вашу краіну. Для нас гэта вельмі важнае. Я хацеў бы, каб кіраўнікі Польшчы ведалі аб тым, што беларускі народ гэтага ніколі не забудзе, што ў цяжкія часы яны занялі прынцыповую пазіцыю.

**М. Л.:** Збіраецеся прыехаць ізноў у Беласток, м.інш. у Цэнтр „Польшча-Беларусь".

**С. Ш.:** Так, у бліжэйшы час наведаем Цэнтр і дамовімся адносна сумеснай працы на карысць беларускага народа і нашай агульнай справы, на карысць умацавання дружбы паміж нашымі дзяржавамі. Мы ўвесь час прасілі мець нейкі канал, з дапамогай якога мы маглі б інфармаваць людзей аб тых падзеях, якія адбываюцца. Той адзін канал беларускага тэлебачання і ўсе каналы радыё, увесь афіцыйны друк у Беларусі гэта ж *суцэльная* хлусня, накіраваная на адурманьванне народа дыктатарскім рэжымам. І трэба мець нейкія шляхі, каб давесці праўду да народа.

**М. Л.:** Вы слухалі на З'ездзе выказванні палітыкаў беларускай апазіцыі. Здаецца мне, балюча вы неяк усміхаліся?

**С. Ш.:** Я памятаю, што яны гаварылі чатыры гады таму. Чаму ж не скажуць: „Мы памыліліся"?

**М. Л.:** Погляды мяняць — рэч людская. Тым больш што мяняюцца абставіны і апраўдваюцца спадзяванні і прадказванні. З кім вам цяпер найбліжай па дарозе да Айчыны?

**С. Ш.:** Пазбавіцца ад бяды можам толькі сумесным змаганнем.

**М. Л.:** Дзякуем за размову і жадаем дайсці да жаданай мэты.

*Фота Міры Лукшы*

# Лукашэнка стварае заслону на мяжы з Расіяй

Тыя, што памяталі, як тры гады таму прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка асабіста выкопваў памежныя слупы на мяжы з Расіяй, глядзеўшы беларускае тэлебачанне ў верасні гэтага года маглі не паверыць сваім вачам і вушам. Журналісты інфармацыйных выданняў пастаянна напаміналі пра загад Лукашэнкі канфіскаваць у даход дзяржавы ўсе тавары, якія без дазволу беларускіх улад нехта прабаваў бы экспартаваць у Расію. Канфіскаваныя маюць быць таксама сродкі транспарту, на якіх знаходзіліся б гэтыя тавары. Мала таго — асобы, якія паводле прэзідэнцкага ўказа, займаліся б кантрабандай, маюць быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Абазначае гэта, што, напрыклад, калі б Іван Пятровіч вёз сваім сваякам у Смаленск два мяшкі бульбы і быў бы ён затрыманы міліцыянерамі, тады патрацці бы бульбу, аўтамабіль і яшчэ да таго цягалі б яго па судах.

Беларускае тэлебачанне паказвае дарогі ў Расію перапоўненыя міліцыянерамі, якія правяраюць усе, нават легкавыя, аўтамабілі. На беларуска-расейскай мяжы раптам вырасла жалезная заслона для ўсялякага тавараабмену. Цяжка разабрацца ў чым сутнасць справы, якая логіка прысвячае Рыгоравічу ў гэтай дзіўнай ізаляцыі братняга народа, якому не хапае цяпер грошай, харчоў і ўсяго іншага. Можна зразумець імперыялістаў, якія пабачыўшы, што ў расіян няма чым плаціць, зразу спынілі пастаўку тавараў. Але калі так паводзіць сябе іх першы сябра, тады найлепш відаць, што г.зв. дружба народаў — гэта толькі лозунг для ідыётаў. Нават такі прыяцель расейцаў, як Лукашэнка, калі ўсведаміў сабе, што галодныя беларусы маглі б з'есці яго самога, міліцэйскім кардонам стрымаў вываз харчовых прадуктаў у Расію. Прытым ён добра ведае, што без расейскай нафты і газу беларуская гаспадарка, пры цяперашнім стане інтэграцыі, не праіснуе нават пару месяцаў.

8 верасня прадстаўнік прэзідэнцкай адміністрацыі доўга пераконваў грамадзян Беларусі, што ў іх краіне „никакого обвала не будет", што „банки функционируют в нормальном режиме". Пасля аднак паказалі, як людзі масава купляюць маразілкі, дываны, абутак. Журналісты паяснялі, што ў крамах аднак усё ёсць, апрача цукру, кашы і мяса, але гэтага здаўна ў нас не хапала, — падтрымлівалі на духу суродзічаў.

На Берасцейшчыне выступае яшчэ праблема з галоднымі ўкраінцамі, якія з Беларусі ад некалькіх гадоў цягнуць усё, што можна з'есці. Другі братні народ таксама з зайздрасцю глядзіць на „багатую" Беларусь. Беларускія сродкі масавай інфармацыі тым часам штораз больш істэрычным тонам заяўляюць пра некантраляваны вываз тавараў на Украіну. Трэба спадзявацца, што Рыгоравіч неўзабаве і ў гэтай справе прыме адпаведныя меры.

З таго часу, калі ў Расіі наступіў фінансавы правал, Лукашэнка ні разу не ўспомніў пра „патрэбу далейшай інтэграцыі". Мабыць, яна сама прыйдзе, гэтым разам у выглядзе, не меншага чым у Расіі, крызісу. Амаль чатыры гады прэзідэнт падключаў эканоміку Беларусі да расейскай. Атрымалася, што паспяхова.

**Яўген Міранович**

# Візы і злачыннасць

4 верасня г.г. Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалай Крэчка скілікаў прэс-канферэнцыю прысвечаную новым візавым тарыфам для грамадзян Польшчы, якія перасякаюць мяжу з Беларуссю і праблемам бяспекі грамадзян РБ у нашай краіне.

З 1 верасня г.г. у Беларусі ўведзены змены ў візавых законах. На ўезд у Беларусь за аднаразовую візу трэба заплаціць 5 дол. ЗША, і сапраўдная яна тры месяцы. Віза на шматразовае перасячэнне беларускай мяжы каштуе 14 дол. ЗША і тэрмін яе сапраўднасці — 6 месяцаў. За атрыманне візы ў неадкладным парадку трэба даплаціць 24 дол. ЗША. У Польшчы адпаведна: 50 зл., 100 дол. ЗША (сапраўдная яна ў гэтым выпадку 1 год) і 100 зл. Апрача візы пры ўездзе ў Беларусь трэба яшчэ мець ваўчэр (кошт яго не меншы за 10 дол. ЗША), або запрашэнне, або тэлеграму ў пільных справах. Генеральны консул запэўніў, што яго ўстанова прыложыць усе намаганні, каб выдаць візу ў найкарацейшым тэрміне. Консульства РБ працуе ў будзённыя дні ў гадзінах 9.00—15.00 па вуліцы Варынскага, аднак з прычыны неспрыяльных для працы ўмоў на працягу бліжэйшага месяца плануе памяняць сваю сядзібу.

Найбольшай праблемай у працы Консульства з'яўляецца бяспека грамадзян Беларусі ў Польшчы. За восем месяцаў г.г. польскія праваахоўныя органы на тэрыторыі падапечнай беластоцкаму консульству абвінавацілі ў злачынстве 565 грамадзян Беларусі: 6 былі абвінавачаны ў згвалтаваннях, больш за 60 — у разбоях, а апошнія за наглыя пакражы і за аўтамабільныя здзелкі. У апошняй справе консул Мікалай Крэчка сказаў, што польскія праваахоўныя органы празмерна жорстка адносяцца да грамадзян Беларусі. Калі, сказаў ён, беларускаму настаўніку ці калгасніку ўдасца сабраць з вялікаю натугай тыя тысячу долараў, за якія ў Польшчы нейкі ашуканец прадасць яму, несвядомаму, крадзены аўтамабіль, тады таго грамадзяніна Беларусі адразу саджаюць у турму, а ён жа і так пацярпеў, калі яму канфіскавалі той аўтамабіль. Або другі прыклад: у ліпені з Бялай-Падляскай Консульства атрымала чатыры тэлеграмы ад сваіх грамадзянак пра згвалтаванне. У гэтай справе Консульства направіла каменданту паліцыі ў Бялай-Падляскай запыт. У адказ камендант паведаміў, што выяўлены 3 злачынствы; у двух віноўнікамі былі грамадзяне Польшчы, а ў трэцім выпадку пакрыўджаная адказалася ад абвінавачвання. Камендант паінфармаваў яшчэ, што на яго тэрыторыі ўтрымоўваецца высокая злачыннасць, а злачынцамі ў большасці выпадкаў з'яўляюцца грамадзяне РБ. Ну і мы, з горам сказаў консул, мусім гэта адобрываць. Надта ж многа злачынцаў на наш такі талерантны народ, пракаментаваў консул.

У Беластоку здараецца многа наглых пакражаў у грамадзян РБ у цэнтры горада, на вул. Ліповай. Паліцыі там няма, але калі нават і ёсць, дык не рэагуе на кліч „рускіх" за дапамогай.

На прэс-канферэнцыю быў запрошаны і прэс-сакратар Ваяводскай камендатуры паліцыі ў Беластоку. Сказаў ён, што калі паліцыя атрымае паведамленне пра злачынства позна, тады цяжка злавіць злачынцу, аднак, калі хутка, тады ўдаецца. Вось 31 жніўня каля Чорнай-Беластоцкай беларускім грамадзянам укралі 800 дол. ЗША, аднак паліцыя атрымала паведамленне пра злачынства 4 гадзіны пасля рабунку і ўстанавіць злачынцаў не ўдалося. А вось нядаўна, 3 верасня, у Беластоку каля магазіна Market ABC з беларускага аўтамабіля былі ўкрадзены 3600 дол. ЗША і хутка паінфамаваная паліцыя схапіла злачынцаў: трое літоўцаў, украінца і расейца. Прадстаўнік паліцыі сказаў, што хаця членамі злачынных груп з'яўляюцца розныя людзі, аднак злачыннасць чужаземцаў складае ўсяго 2% ад усіх злачынстваў у ваяводстве. У 1996 г. ў Беластоцкім ваяводстве былі затрыманы 269 рускамоўных злачынцаў, у іх ліку 187 грамадзян Беларусі, а ў наступным годзе — 370 рускамоўных, з іх 242 — грамадзяне РБ.

У раскрыванні злачынстваў з удзелам грамадзян Беларусі консульства нясе юрыдычную дапамогу польскім праваахоўным органам. Бо злачынца, сказаў консул Мікалай Крэчка, з'яўляецца злачынцам: ці гэта ў Польшчы, ці ў Беларусі, ці ў Афрыцы.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# На бацькаўшчыне Уладзіслава Казлоўскага



Пасляабедні будзень на Сакольшчыне. Мінаем сонныя вёскі: Стараўляны, Ахрымаўцы, Даўгасельцы. Спадарожнікі — этнамузыколаг Галіна Таўлай з Пецярбурга і фалькларыст Сцяпан Копа з Беластока — пералічваюць вядомых тут сабе народных спевакоў. Якраз у гміне Сідра, на каталіцкай Сакольшчыне, пашанцавала ім запісаць даволі вялікую колькасць беларускіх песень.

— У Ахрымаўцах жыве добрая спявачка, — кажуць пра Мар'янну Федаровіч.

— Цікава, чаму тут не памянялі назвы вёскі, — здзіўляецца *Achrymowcami* мецэнас Пятро Юшчук, наш шафёр. Пазней толькі даведаемся, што на Сакольшчыне няма ніякай беларускай мовы, бо тутэйшы народ карыстаецца *zdecydowanie polskim dialektem*, — скажа нам паланістка, вывучаная ў Беластоку.

У Залессі ўражвае стары, з часоў уніі касцёл.

— Тут хрысцілі Уладзіслава Казлоўскага. А на могільніку, што ля касцёла, спачываюць яго бацькі, — паясняе нам даследчыца Лена Глагоўская.

Гісторыя беларусаў Сакольшчыны пярэчыць прынятай на Беласточчыне схеме, паводле якой кожны каталік павінен быць палякам. Згаданы Уладзіслаў Казлоўскі быў бойкім беларускім нацыянальным змагаром. У час нямецкай акупацыі выдаваў у Менску „Беларускі голас". Загінуў ад бальшавіцкай кулі ў 1942 годзе.

У Залессі Лена Глагоўская адшукала сям'ю Уладзіслава Казлоўскага. І сёння завіталі мы да спадарства Тэрэсы і Генрыка Казлоўскіх з просьбай, каб гаспадар праспяваў нам вышуканыя ў архіве „Песні Сакольшчыны". Сабраў іх і выдаў, на жаль, без нотнага запісу Уладзіслаў Казлоўскі. Яшчэ да вайны.

— Цяпер ужо ў нас не спяваюць беларускіх песень, — кажа спадар Генрык, год нараджэння 1927, сын Адольфа Казлоўскага, роднага брата Уладзіслава.

— Наша сям'я размаўляе ўжо на польскай мове. Па-беларуску гаварылі і спявалі ў нас яшчэ да канца вайны. Людзі любілі таксама расейскія песні як „Волга, Волга", „Маруся, Маруся", — кажа наш субяседнік.

Гаспадар памятаў палову запісаных у зборніку песень. Яго выкананне зацікавіла не толькі нас, але і яго сям'ю. Лукаш і Каралінка, унукі Генрыка Казлоўскага, пільна слухалі дзядулевы спевы. Прыслухоўвалася ім і дачка, Ліля Міцун, якая жыве ў Саколцы. Гісторыя дзядзькі зацікавіла яе. Спадарыня Міцун пабывала на сесіі, наладжанай Беларускім гістарычным таварыствам, прысвечанай беларусам Сакольшчыны, дзе, між іншым, гаварылася пра рэдактара „Беларускага голасу",

— Мае знаёмыя з Саколкі віншавалі выступлення ў тэлевізіі, — кажа.

Рэдакцыя беларускай тэлеперадчы наведала таксама і Залессе.

— Добра памятаю Уладзіслава, — кажа спадар Генрык. — Жыццярадасны быў, вясёлы. Як прыязджаў у Залессе, з моладдзю сустракаўся. Мне заўсёды даручаў строіць ёлачку.

Генрык Казлоўскі жыве ў вялікім драўляным доме, хаце сваіх бацькоў, дзе таксама нарадзіўся і дзядзька Уладзіслаў. За застаўленым хатнімі смакоццямі сталом Лена Глагоўская расказвае як адшукала на Памор'і жонку і дачку Уладзіслава Казлоўскага. Таксама пра апошнія хвіліны жыцця. Застрэлілі яго невядомыя асобені ў рэдакцыі „Беларускага голасу" ў белы дзень. А ён даверлівы быў, не хацеў ніякай аховы. Пасля яго смерці ў Залессе прыйшло толькі паведамленне. Сям'я не ведала, што сталася з жонкай і дачушкай.

— Глядзіце, якая незвычайная сустрэча ў нас, — кажа Галіна Таўлай.

Яе бабуля паходзіла таксама з роду Казлоўскіх. Дзявоцкае прозвішча Лены Глагоўскай таксама Казлоўская.

— Адны Казлы, — жартуе спадар Генрык.

У час канікул яго родны дом напаўняецца гоманам унукаў. У іх рысах знаходжу падабенства з Уладзіславам Казлоўскім. Найбольш напамінае яго пані Ліля Міцун з Саколкі.

Залессе, як большасць навакольных вёсак, адмірае. Ужо дзесяць гадоў стаіць закрытай школа-тысячагодка. Жменька дзетак даязджае ў школу ў Паўловічы. У парафіі Залессе адзінаццаць вёсак. Вернікаў аднак нямнога, усяго 800 душ.

— Няма ў нас наследніка Казлоўскага, — кажа спадар Генрык.

Гаспадарка запісана на яго дачку, якая не захацела выходзіць замуж.

Пакідаем Залессе. Па дарозе наведваем шыкоўны палац у Паўловічах з XVII стагоддзя. Апошнім уласнікам быў доктар Балхавітынаў, аўтар этнаграфічных нарысаў пра Сакольшчыну. Палац, зруйнаваны ў час вайны, пачалі адбудоўваць у 1959-1966 гадах. Зараз там знаходзіцца Пачатковая школа. У сутарэнні жывуць настаўнікі.

— Аляксандр Максімюк, — знаёміцца з намі былы дырэктар школы.

Сам родам ён з Андрыянак, што на Бельшчыне. У Паўловічы трапіў у 1966 годзе з *наказу* працы. Зараз ён пенсіянер, школай кіруе дачка Дарота Чапляевіч, па прафесіі паланістка.

— Я цікавілася мясцовым фальклорам, мясцовымі песнямі, — кажа спадарыня Дарота. Неўзабаве будзе яна бараніць магістэрскую дысертацыю ў прафесара Вяжхоўскага з Беластоцкага універсітэта. Тэма працы „Żywność i przygotowanie żywności na terenie gminy Kuźnica".

— Як беластоцкія навукоўцы ўспрымаюць мясцовы дыялект? — пытаем у пані Дароты.

— Zdecydowanie polski, — адказвае. — Ва універсітэце, перш за ўсё, займаемся літаратурай. Мовазнаўства звездзена на далейшы план.

У школе ў Паўловічах сустракаем настаўніцу Мар'ю Доўгер.

— Я з Махнатага, з роду Семенюкоў.

Пані Доўгер таксама трапіла ў Паўловічы з *наказу* працы.

Пытаем пра школу і мясцовыя асаблівасці.

— Вёскі старэюць, — кажуць настаўнікі. У школе ў даны момант 150 вучняў, сярод якіх таксама і праваслаўныя. Гэтыя апошнія пражываюць у такіх мясцінах як Даўгасельцы, Мелянкоўцы і Стараўляны.

Ці праваслаўных тут называюць беларусамі?

— Не, усе тут палякі. Хаця многа дзяцей на перапынках яшчэ і сёння гавораць на беларускай мове. Старэйшыя і бацькі рэдка карыстаюцца польскай мовай. Нават калі нехта пачне гаварыць на польскай мове, прапануюць яму: „Гаварыце па-свойску, хутчэй будзе".



*Сядзяць (злева): Ліля Міцун з Каралінай, Сцяпан Копа, Генрык Казлоўскі, Пятро Юшчук. Стаяць: Лукаш Сідар, Лена Глагоўская, Галіна Таўлай.*

— Дарэмнай была праца Уладзіслава Казлоўскага на беларускай ніве. Яго сям'я і большасць беларусаў-каталікоў ужо спаланізаваныя, — напісала год таму Лена Глагоўская.

— Няпраўда, — кажуць жыхары Залесся, якія папрасілі не называць іх прозвішчаў. — У нашай вёсцы ніхто па-польску не гаворыць. Хіба, што пры чужых.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота з архіва Лены Глагоўскай*

# Калі вернуць экспанаты?

— Ужо раней мы атрымалі з Міністэрства культуры і мастацтва прапанову, каб узяць экспанаты з Цеханоўца, якія былі вывезены раней з нашага Белавежскага музея. Калі хутчэй закончым пабудову Музея ў Гайнаўцы, будзем магчы іх узяць, — гаворыць старшыня Грамадскага камітэта пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы Канстанцін Майсеня.

***— Дзяржаўныя сродкі на пабудову Музея ўжо даўно скончыліся і што далей?***

— Трэба будзе яшчэ ў будынку „Ц" пакласці тынкі звонку, а ўнутры падлогі, памаляваць, павесіць дзверы, якія ўжо зроблены і ўзяцца за канчатковыя справы, а грошай няма, — кажа спадар Майсеня. — Добра, што знайшліся ахвотныя арандаваць залы. Зараз працуе кіно, памяшканні займаюць суполка „Унібуд", Падатковае бюро спадара Пятрочука, філіял школы „Эдукатар", пасольскае бюро і бар „Белая ружа". Дзякуючы гэтаму ёсць сродкі на зарплаты працаўнікам, для прыёму і кансервацыі экспанатаў і выконвання іншых пастаянных прац. У гэтым годзе і з Беларусі дапамогі не атрымлівалі. Выконваецца таксама і шыльда Музея. Нягледзячы на экспанаты з Цеханоўца, трэба далей шукаць экспанаты і кансерваваць іх. Думаю, што ўлады стрымаюць слова і дадуць грошы на хуткае заканчэнне пабудовы, а ўрачыстае адкрыццё можна будзе назначыць на лета наступнага года. Дзякуем тым усім ахвяравальнікам, якія дапамагалі ў пабудове Музея і пераказвалі неадплатна экспанаты. Мы і надалей будзем вельмі рады, калі знойдуцца асобы, якія дапамогуць збіраць экспанаты і завяршыць будову.

**Аляксей Мароз**

# Кніжка вершаў М. Шаховіча

У жніўні гэтага года ў паэтычнай серыі Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" выйшаў друкам зборнік вершаў Міхала Шаховіча „Пад сузор'ямі". М. Шаховіч належыць да жалезнага саставу аўтараў Літаратурнага аб'яднання, хаця яго творы ў друку з'яўляюцца не так і часта.

У зборніку дваццаць адзін паэтычны твор. Характэрнай рысай большасці з іх дэкларатыўнасць, моцная артыкуляцыя, часамі можа і крык — як гэта назваць, справа ўжо індывідуальнага густу чытача. Аўтар у іх праводзіць свае паэтычныя падрахункі ды ўнутраныя споведзі. Але знойдзецца ў зборніку і некалькі вершаў выказаных сцішаным голасам, спакойна, не ставіўшы выразных эмацыянальных націскаў, як хаця б „Шкада, не паеду ў Сахачаў".

*Шкада, не паеду ў Сахачаў.*
*Не буду лічыць я прыпынкаў ад Блоні.*
*Там — такая раўніна,*
*Проста як на далоні.*
*Не буду ў Пясочніцы я рыхтавацца,*
*Каб першым саскочыць і бегчы перонам,*
*У абдымках кружыцца...*

Як ні дзіўна, але такая некрыклівая і нязыркая артыкуляцыя ўсё-такі больш выяўляе і самога аўтара, і бачанне ім свету, і ягонае ў тым жа свеце (паэтычнае) месца. У іншым вершы М. Шаховіч піша так:

*Да сонца адгэтуль*
*Рукою падаць,*
*Хаця сінню*
*Валодаюць хмары.*

*За акном*
*Успамінаў белая рацъ.*

Ці ж не прыгожа? Пра зборнік М. Шаховіча „Пад сузор'ямі" пытайце ў Беларускім літаратурным аб'яднанні „Белавежа", набыць яго можна таксама і ў нашай рэдакцыі. **(ам)**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

У днях 21-23.08.1998 г. прайшлі XIV Сустрэчы „Зоркі". Мэтай Сустрэч была навука пісання фельетона ды экалагічны рэйд па Белавежскай пушчы „Шляхам курганоў". У мерапрыемстве прынялі ўдзел 23 асобы, у іх ліку карэспандэнты „Зоркі" і маладзёжны гурток з Белавежскага дома культуры „Klub Tropiciela".

Сустрэчы пачаліся 21 жніўня ў будынку Беларускага музея ў Гайнаўцы. Далей удзельнікі прайшлі ў пушчанскую мясціну Буды. Па дарозе наведалі месца праваслаўнага культу Крыначку і запаведнік Шчэкатова, дзе знаходзяцца курганы.



*Удзельнікі XIV Сустрэч „Зоркі" ў Гайнаўцы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

У Будах удзельнікі сустрэліся з журналістамі. Публіцыстычны і літаратурны характар фельетона, спосаб яго пісання ды фрагменты цікавых тэкстаў прадставілі: сакратар „Нівы" Аляксандр Максімюк, Міхась Андрасюк з Гайнаўкі ды доктар Лена Глагоўская з Гданьска.

Пушчанскі маршрут прадаўжаўся 23 жніўня г.г. Удзельнікі прайшлі „Воўчым трыбам" у Старую Белавежу, наведалі каралеўскі шлях з магутнымі дубамі. Сустрэчы завяршыліся ў Белавежы.

Рэдакцыя „Зоркі" сардэчна дзякуе спонсарам і валанцёрам:

**— Польскаму Фонду дзяцей і моладзі,**

**— Белавежскаму дому культуры,**

**— Беларускаму музею у Гайнаўцы,**

**— гуртку „Граблі" з Гайнаўкі і бацькам з Буд, якія наладзілі нам вогнішчы,**

**— дакладчыкам і настаўнікам-валанцёрам.**

# XIV Сустрэчы „Зоркі"

*(Гайнаўка — Буды — Белавежа)*

## Чар Белавежы


*Забытым пуцём вузкакалейкі ішлі мы ў запаведнік Шчэкатова.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

*Хвоі высяцца, нібы вежы,*
*над пажоўклым імхом палян.*
*Старажытная Белавежа —*
*усхваляваны акіян.*
*(П. ПАНЧАНКА)*

Белавежская пушча захапіла не толькі паэта, але і мяне. Акіян багацця прыроды ад стагоддзяў калышацца, шуміць, пульсуе сваім жыццём. Часткі гэтага жыцця можна пабачыць між хвояў, курганоў і легендаў. А яны могуць сказаць многа.

Забытым пуцём вузкакалейкі ішлі мы праз пушчу. Побач насыпу відаць сляды аленяў, якія купаліся ў пяску. Дзікі любяць балота, у пушчы іх процьма. Пасля дажджу лес блішчыць, кропелькі вады быццам брыльянты ззяюць у сонцы. Шум дрэў — найгаласней шуміць асіна. Баіцца. Даўно-даўно, як кажа сівая легенда, Божая Маці ўцякала ад жахлівага Ірада. Патрацiўшы сілу папрасіла ў дрэва дапамогі, каб яно схавала яе. Дрэва адмовілася. Ад тае пары яно трасецца ад страху. Ля пушчанскіх дарог і трыбаў растуць папараці. Прыгожыя і вялікія, і думаеш бачачы іх пра Купальскую ноч, калі залатым агнём зззяе сярод ночы папараць-кветка. Прыехаць бы ў такую ноч сюды!

Дарога ў пушчы — з'ява штучная. Звярына ходзіць сваімі сцежкамі. Легенды захапляюць мяне. У запаведніку Шчэкатова я пабачыла курганы. Іх там так многа! Адзін малы — дзіцяці або Гусляра з паэмы Янкі Купалы. Інщы, быццам гара, тут спачывае пэўна князь-волат. Курганы ў Белавежскай пушчы з X-XIII стагоддзяў. У той час на Русі было ўжо хрысціянства. Відаць, не так хутка завандравала яно ў гэты край. Курган — магіла продкаў-язычнікаў. Непадалёк запаведніка самая вялікая рака Белавежскай пушчы — Лутоўня. Калісь была ракой, сёння сталася рэчанькай.

У Старой Белавежы кароль Сігізмунд Стары меў паляўнічы двор. Зараз засталася толькі легенда.

Прырода без нас абыдзецца! Але ці абыдземся мы без яе? Без прыгажосці, якая дорыць чалавеку натхненне і радасць жыцця?

**Аня САДОЎСКАЯ,**
**II кл. белліцэя ў Гайнаўцы**

# Польска-беларуская крыжаванка № 38

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Zakątek ▶ / Wiadro ▼ | | | ▼ | Noga ▶ / Dywan ▼ | ▼ |
| | | Spryt do czegoś | Dym ▼ | | | |
| | | Rzym ▼ | ▶ | | | |
| Trzęsawisko ▶ | | | | | | |
| Rym ▶ / Rum | | | | Targowisko | | |
| ▶ | | | Ona ▶ | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 34:** Аса, маланка, календар, кат. Замак, салат, паляк, рог, сундук, каса, удар.



Талон „Зоркі" № 38
20.09.1998

# Другі раз у святым месцы



*У Крыначцы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Адным з прыпынкаў па дарозе з Гайнаўкі ў Буды ў час XIV Сустрэч „Зоркі" была Крыначка — месца, якое я наведаў восенню мінулага года.

Як калісьці з Даркам Фіёнікам, так і сёння з Сустрэчамі, каб увайсці да гэтага святога месца мы доўга шукалі дзіркі ў агароджы. Знайшлі яе ў некалькіх сотнях метраў ад дарогі.

Першай рэчай, якая мяне здзівіла, быў колер царквы. Калі я быў тут у мінулым годзе, храм меў карычневы колер, а цяпер ён сіні. Аказалася, што ў гэтым годзе царкву адмалявалі.

Іншая была таксама легенда пра Крыначку. Расказала нам яе спадарыня Эва Мароз-Кэчынская, якая была нашым экскурсаводам. Паводле яе расказу, калісьці праз пушчу ішлі тры манахі. Адзін з іх вельмі цяжка захварэў. Яго сябры ведалі, што ён неўзабаве памрэ. Манахі спыніліся каля лясной крыніцы, каб напіцца. Калі хворы паспрабаваў вады — у цудоўны спосаб аздаравеў. Пасля гэтага цуду манахі пабудавалі тут царкву.

Пасля расказу спадарыні Эвы мы пайшлі да крыніцы. Ля крыніцы, з якой, паводле легенды, пілі манахі, пабудавалі калодзеж. Людзі змочваюць вадой хустачкі і выціраюць імі балючыя месцы. Потым пакідаюць тыя хустачкі на агароджы. Некаторыя гавораць, што апошнім часам гэтая крыніца не аздараўляе. Дзеецца гэта таму, што хтосьці ўкінуў у яе сабаку.

Калі я наведаў Крыначку першы раз, не звярнуў большай увагі на сотні хустачак, якія вісяць на агароджы. Экскурсавод звярнуў на іх нашую ўвагу. Хустачкі цікавыя таму, што па іх выглядзе можна больш-менш акрэсліць, колькі гадоў таму іх тут пакінулі.

Мы пакінулі Крыначку і пайшлі далей. Я падумаў, што быў я тут год таму. Можа прыеду на гэтае святое месца і ў будучыні?

**Міхась Сцепанюк, VIII клас ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

# Мроі пра гібель Шчэкатова

Стаіць суша. Ад некалькіх месяцаў не ўпала кропелька дажджу. Нават ад выпадковай іскаркі ўспыхнуў бы пажар. Старая чорная пушча рвецца ўвысь, да хмар. Ноччу ўсе вываратні ў прывідным месячным сяйве наводзяць жахлівыя думы. У глыбі, на паляне, мігціць бледнае святло. Там вёска. На краю пушчы, пад магутным дубам стаіць стары зубр. Звер спакойным вокам сочыць як вёска засынае, як заглыбляюцца ў буданах-зямлянках лясныя людзі. У канцы вёскі вялікія склады дрэва. Пасярод паляны гарыць вогнішча. Раптам узрываецца вецер, пачынае накрапваць халодны дождж. На людзей нахлынае страх. Прывязаныя тарпаны пачынаюць ірвацца. Мэкаюць устрывожаныя козы. У пушчы завылі ваўкі. Сабакі брэшуць як апантаныя. Узмацняюцца парывы ветру. У хаце-будане чуецца плач дзіцяці. І раптам маланка б'е ў дуб! Зубр у жаху ўцякае ў пушчу, топчучы па дарозе ўсе перашкоды. Дрэва развальваецца на сотні вогненных трэсак. Агонь займае склад дрэва на паляне. Бушуе ўсюды пажар. Напалоханыя насмерць людзі бязладна і трывожна разбягаюцца ва ўсе бакі. Хатняя жывёла ўцякае ў лес. Агонь распаўзаецца. Вогненныя языкі ахопліваюць сядзібы. Людзі вішчаць, лямантуюць. З апошняга дому выбягае маці з немаўляткам на руках. За іх плячыма абвальваецца ў зямлю іхняя хата. Жанчына не ведае, што дзіцятка ўжо мёртвае. Робіць усё, каб яго ратаваць. Дарэмна...

Золак. Людзі ўглядаюцца на свае былыя сядзібы. Усё зруйнаванае. Усюды папялішча і дым. У паветры невыносны смурод пагарэлай жывёлы. Людзі праклінаюць навальніцу і свой лёс. Не могуць паверыць у тое, што здарылася. Жанчыны плачуць па загінуўшых. Маці з немаўлём бегае як ашалелая. Не можа змірыцца са смерцю дзіцяці. Песціць мёртвае цельца, прамаўляе чулымі словамі. Мужчыны збіраюць ацалелы дабытак. Дапамагаюць супакоіцца ашалелай ад болю маці. А яна з параненым сэрцам валіцца на зямлю. Целы памерлых жывыя хаваюць у курганах.

Каб хутчэй забыцца пра жахлівую ноч, жыхары вёскі рашаюць пайсці прэч з гэтага месца. З тае пары вёска Шчэкатова знікае з карты Белавежскай пушчы. Астаюцца адны курганы.

**Іаанна Кульбацкая, VI клас, Белавежа**

# Ці варта ахоўваць Белавежскую пушчу?

На рэйдзе „Шляхам курганоў" мы два дні маршыравалі праз Белавежскую пушчу. Ідучы, я разглядаўся навокал. Глядзеў на разнавідныя дрэвы: яны былі магутныя, старыя, але і многа было маладых — тонкіх, якія раслі ў шарэнзе побач сябе, усе адной пароды, вышыні і таўшчыні. Я чуў як сябры-спадарожнікі гадалі:

— Ці варта ахоўваць гэты лес і зрабіць тут нацыянальны парк?

У парку, паводле многіх, трэба ахоўваць аднак найпрыгажэйшую і найцікавейшую частку прыроды.

Зараз Белавежскі нацыянальны парк сцеражэ сапраўды прыгожы лес. У Еўропе не сустрэнеце ўжо такога першабытнага лесу. Першабытнага — значыць такога, дзе прырода сама вызначае сабе правы. Белавежская пушча — жамчужына не толькі для палякаў, але і ўсіх людзей. Нацыянальны парк усё ж замалы, каб ахоўваць такі непаўторны лес. Замала тут месца ўсім турыстам-энтузіястам прыроды.

Нягледзячы, што вялікая частка пушчы, якой не ахоплівае Нацыянальны парк, ёсць маладая, лічу, што трэба і яе ахоўваць. Чэслаў Мілаш, які нядаўна наведаў Белавежу сказаў, што высрубванне пушчы напамінае яму разбіранне па цаглінцы кракаўскага Вавеля. Без аховы і дагляду яна хутка загубіць свой натуральны характар, пасля чаго загіне. Без знішчальнага ўмешвання чалавека здолее яшчэ адрадзіцца.

Усё, пра што пішу, мы маглі пабачыць ідучы з Гайнаўкі ў Белавежу. Непадалёк Пагарэльцаў, па левым баку вёскі, знаходзіцца строгі запаведнік. Ён сваім выглядам нагадвае два паверхі будынка: над старымі магутнымі дрэвамі выраслі маладыя, у трэцяй частцы — меншыя. Ведаю, што трэба ім расці яшчэ 50 гадоў. Так як цяпер мы пазіраем на стары недаступны бор з магутнымі дрэвамі ў запаведніку, так у недалёкай ужо будучыні зможам любавацца шырокімі лясными прасторамі з аграмаднымі дрэвамі.

Белавежскую пушчу трэба як найхутчэй зрабіць нацыянальным паркам. І трэба спяшацца, пакуль ёсць яшчэ што ахоўваць!

**Давід Гутоўскі, „Klub Tropiciela" з Белавежы**



*Ля дуба Гедыміна.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Фотазагадка

Як завецца (на здымку) самая вялікая рэчка, што плыве цераз Белавежскую пушчу?

Адказы на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем узнагароды — кніжку Міколы Гайдука „Белавежскія быліцы і небыліцы".

**Зорка**



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Мінскевіч пераклаў Міцкевіча

Сержука Мінскевіча, журналіста „Культуры", вядомага паэта і барда маладога пакалення сустракаем за камп'ютэрам у роднай рэдакцыі.

***— Што ты, Серж, рабіў у апошні час? Чакалі мы летась цябе на Бардаўскай восені ў Бельску ды і не дачакаліся...***

— Я толькі што закончыў рэдакцыйную праўку „Дзядоў" Адама Міцкевіча, якіх я пераклаў на беларускую мову. Пераклаў усе часткі, нават тыя, якія былі забаронены цэнзурай у апошнім выданні, нават такія кавалкі, што ніколі не друкаваліся. Усё пераклаў і ўсё скампанаваў. Кніжка мае быць надрукавана з дапамогаю варшаўскіх сяброў к дню нараджэння Міцкевіча, да двухсотгоддзя. Будзе яна ў Беларусі першым камплектным перакладам на беларускую мову. Гэта ж такі твор, які выконвае нацыяхоўчую ролю і для беларусаў, і для палякаў, і для літоўцаў.



***— Як табе, маладому, прыйшло ў галаву ўзяцца за такую магутную справу?***

— Я працаваў старшым рэдактарам літаратурнай часткі тэатра „Зніч" у 1994 годзе з Галінай Дзягілевай, і ў час маёй працы там узнікла такая ідэя: сабраць усе часткі „Дзядоў", якія ёсць па-беларуску перакладзены і скампанаваць паводле іх монаспектакль Тэатра аднаго акцёра „Зніч". Але аказалася, што гэтых фрагментаў вельмі мала перакладзена, і мне давялося перакладаць яшчэ некаторыя. Гэтая п'еса не пайшла, на жаль, застацца дзесьці ў архівах тэатра. Яна цяжкая для выканання ў тэатры аднаго акцёра. Я тады быў студэнтам. Пасля, у 1995 годзе я пераклаў яшчэ Чацвёртую частку і зрабіў дыплом, вядома, даследуючы яшчэ тэкст „Дзядоў". Кіраўніком мае працы быў Вячаслаў Рагойша. Пасля я вучыўся трошачкі ў Варшаве ў гуманітарнай школе і працягваў пераклад...

***— Як ты справіўся з „Імправізацыяй"?***

— „Імправізацыя" гэта самая вяршыня. Яна, дарэчы, перакладалася на беларускую мову некалькімі аўтарамі, але я думаю, што яна ў мяне някепска атрымалася, тым больш, што ёсць ужо на маю працу водгукі. Я даваў пачатаць мой пераклад прафесар Альжбеце Смулковай і іншым, хто добра ведае Міцкевіча і па-польску, і па-беларуску. Я лічу, што я захаваў укладзенае ў „Імправізацыю". Думаю, што мне дапамагло і тое, што я больш-менш ва ўзросце Адама Міцкевіча, калі ён пісаў „Дзяды". Можа быць, гэтую нейкую рухавасць, нейкі імпэт, пачуццёвасць удалося мне захаваць. Набокаў піша, што перакладчык павінен мімікрыраваць пад таго аўтара, якога перакладае. А я ж яшчэ быў акцёрам, і я неяк так, калі перакладаў, проста быццам пераўвасабляўся ў асобу Адама Міцкевіча, пагружаўся ў абставіны. Па-акцёрску, бо ўсё-такі гэта драма.

***— Ці не выклікала тое, што гэты пераклад зрабіў якраз ты, адзін з лідэраў галоснага „Бум-бам-літа", бард, акцёр, зусім малады хлопец, нейкага нават шоку?***

— Я раней вельмі мала друкаваў плён сваіх перакладаў. Калі выйдзе кніга, пабачым, будзе шок, ці не. Самае галоўнае — мне трэба было захаваць Міцкевічаўскі радок, яго думку, вобраз, пачуццё. Прачытаўшы, як яны жылі, пра тую ноч, калі ён пісаў „Імправізацыю", я пагрузіўся ва ўсё тое. Я той твор перакладаў ноччу. Тут жа хацелася мне яго перапісаць. Я, вядома, на камп'ютэры, Міцкевіч пісаў начыстую. Міцкевіч думаў: хутчэй, хутчэй перапісаць, а то раптам заўтра памру і ніхто не зможа расшыфраваць!.. І ў мяне быў такі стан: хутчэй, хутчэй занатаваць!

***— А што ў той час, калі працаваў над „Дзядамі", ты меў на асабістым варштаце?***

— Калі перакладаеш Міцкевіча, цяжка пісаць што іншае. Але разрадка розуму патрэбная. Ідзе раптам думка ў іншы бок, і пішаш... дзіцячую песеньку. Пасля яе пад гітару спяваеш. Вось у той час я пісаў песні, выйшла касета.

***— Сёлета прыедзеш на Бардаўскую восень у Бельск-Падляшскі?***

— У мінулым годзе я не змог, але ў гэтым пастараюся.

***— Чакаем новых песень і вершаў, Сяржук!***

**Гутарыла Міра Лукша**

*Фота аўтара*

# Артыст непрафесіянальны




*Аўтар выстаўкі са сваімі настаўніцамі Людмілай Бэзюк (злева) і Таісай Кацэйка.*

[1 ☞ *працяг*]

вых бізнесменаў, якія змаглі яму дапамагчы. Міхала тут любяць і маюць да яго асаблівыя адносіны.

Ды і людзей сабралася многа, як на рэдка якой выставе. Быў прат. Анатоль Такаюк, тутэйшы вікарый, была Тамара Русачык, метадыст беларускай мовы з Беластоцкага ваяводскага метадычнага асяродка, была дырэктар арлянскай школы Яўгенія Васілюк і шмат іншых настаўнікаў. Ян Мордань прыехаў з Гацькоў, каб весці гэты вернісаж. Было шмат моладзі, арлянскія бізнесмены, жанчыны з калектыву „Арляне", былая працаўніца Дома культуры Вера Валкавыцкая, былы яго дырэктар Аляксандр Валкавыцкі. Папрыходзілі людзі з суседніх вёсак. Нехта прыехаў з Гданьска.

Усе яны, выступаючы, або проста ў пазнейшай размове падкрэслівалі важнасць таго, што робіць Міхал Мінцэвіч. Дырэктарка школы цешылася, што дзеці будуць мець павучальную лекцыю гісторыі сваёй мясцовасці, а Тамара Русачык нават прапанавала пакінуць тут гэту выставу і зрабіць у школе музей.

На жаль, на адкрыццё выставы не прыйшоў не толькі ніхто з гмінных улад, але нават і з улад у галіне культуры. Ну, што ж, той, хто робіць допісы ў газету, уладам не заўсёды па душы.

На выстаўцы пераважаў фотарэпартаж „Пяць стагоддзяў Орлі і аколіц", які найбольш любіць Міхал Мінцэвіч. Паглядзець, пагаварыць, пафатаграфаваць... Абудзіць людзей, дадаць ім веры. Задбаць пра тое, што адыходзіць. Колішні яго настаўнік Мікалай Ляшчынскі навучыў яго ўсяму гэтаму, і да сёння Міхал успамінае яго з вялікай удзячнасцю.

Праўду кажучы, у сваім жыцці была я не на адной выстаўцы. Але мала на якой я бачыла такое татальнае зацікаўленне. Людзі вышуквалі ў асобных артыкулах і на здымках знаёмых. Во Шурка, ён высокі такі, казалі. Цудоўная памятка. А тут во Шыманскі, глядзі...

Ад выстаўкі фотаздымкаў і рэпартажаў Міхала Мінцэвіча ў арлянскай школе веяла аўтэнтычным цяплом.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Інспіраваныя пушчай



3 верасня г.г. у Белавежы закончыўся чарговы ўжо XXXIV Міжнародны жывапісны пленэр. Удзельнічалі ў ім мастакі з Літвы, Украіны і розных гарадоў Польшчы — Кракава, Варшавы, Любліна, Беластока і Чэнстаховы. З Вільнюса (Літва) прыехала Івона Таровін, са Львова (Украіна) — Юрый Сычоў. З Беластока ў мерапрыемстве прымалі ўдзел вядомыя мастакі Стэфан Рыбі, Вікторыя Талочка-Тур, Рышард Кузышын і Юры Лянгевіч, пад кіраўніцтвам якога адбыўся пленэр.

Мастакі намалявалі многа карцін. Усіх іх зачаравала і заінспіравала пушча. У свабодныя ад працы хвіліны яны ездзілі вузкакалейкай у маляўнічы пушчанскі куточак Тапіла ды ладзілі касцёр у Старой Белавежы.

2 верасня ў Белавежскім асяродку прыродазнаўчай адукацыі (БАПА) у Палацовым парку адкрылі выстаўку жывапісу дванаццаці мастакоў сёлетняга пленэру. Яе можна будзе глядзець у залах БАПА ўвесь верасень. Асноўная тэма карцін — каралева ўсіх польскіх пушчаў — Белавежская, у розныя поры дня і года з самымі рознымі святлаценямі.

**(гай)**

# Сямейная традыцыя

У вёсцы Рыгораўцы Арлянскай гміны існуе пажарная каманда. Дзейнасць сваю пачала яна зараз пасля вайны, (недзе ў 1945-1946 годзе).

У 1970 годзе вёска пабудавала пажарнае дэпо. Грашовую дапамогу пажарнікі атрымалі з Павятовай камендатуры ў Бельску-Падляшскім.

Вось як успамінае тыя дні Мікола Шкода, шматгадовы мясцовы дзеяч, а зараз старшыня Гміннага праўлення ОСП у Орлі.

— Пабудова рамізы пачалася ў 1970 годзе, а ў наступным яна завяршылася. У той жа час прызначылі нам пажарны аўтамабіль „Стар-25". Машына, праўда, абсталявана была толькі мотапомпай, без бака на ваду, аднак лічылася яна немалым здабыткам для пажарнай справы.

Важакамі і аднachасова ініцыятарамі пабудовы дэпо былі Мікола Якубовіч і Мікола Ткачук. Але і астатнія аднавяскоўцы не стаялі збоку. Амаль кожны гаспадар Рыгораўцаў унёс сваю цаглінку ў пабудову пажарнага дэпо.

З бюджэтнымі грашыма ў той час было цяжкавата. Таму рыгораўчане на гэту мэту прызначылі даход ад продажу адной-трох саламяных мат, якія яны пастаўлялі прадпрыемству „Цэпэлія" ў Бельску-Падляшскім.

— Скажыце, калі ласка, — звяртаюся да свайго суразмоўцы, — з якога часу пачынаецца ваша пажарная дзейнасць?

— У ОСП я ўступіў у 1965 годзе, — гаворыць Мікола Шкода. — Мяне зразу прызначылі шафёрам аўтамабіля. І вось запамяталася мне такое здарэнне. У суседніх Малінніках успыхнуў пажар. Была дзявятая гадзіна раніцы. Я сядзеў з сябрамі за сталом, як засігналіла пажарная сірэна. Мы пашпарылі ў дэпо. Неўзабаве былі і на месцы пажару. Я так усхваляваўся стыхіяй, што неразважна заехаў аўтамабілем пад пылаючую стадолу. Зразу ўключыў ваду. Прытушыў агонь. „Ты што, здурэў, — загрымеў павятовы камендант Сіманенка, які апынуўся побач мяне, — аўтамабіль хочаш спаліць!" Мне толькі тады дайшло да мазгоў, што я не захаваў сродкаў бяспечнасці і сапраўды падвяргнуў небяспецы службовы аўтамабіль. У рэзультаце я ў адзін дзень атрымаў службовае спагнанне за неадпаведнае пастаўленне аўтамабіля і пахвалу за ўратаванне чацвёртае стадолы.

— Вы, здаецца, зараз у начальніках?

— Чатыры ці пяць гадоў узначальваў я рыгораўскую каманду, зараз з'яўляюся старшынёю Гміннага праўлення ОСП у Орлі. Ужо сёмы год ідзе, як знаходжуся на гэтай пасадзе. Другую кадэнцыю...

— Што можаце сказаць пра пажарную бяспеку на тэрыторыі Арлянскай гміны?

— Справа маецца нядрэнна. У нашым распараджэнні два „Камазы" з ёмкасцю па 5 000 літраў кожны. Апрача таго маем „Жука". У кожнай вёсцы водаправод, дзе ў час пажару можам непасрэдна падключоцца да гідранта. А пажарнікі нашы — гэта спецыялісты па сваёй прафесіі. На гмінных спаборніцтвах у Маліннікаў у жніўні г.г. мы заваявалі (Рыгораўцы, значыцца) першае месца.

— Кажуць, што Вашы сыны таксама пажарнікі?

— Гэта праўда. Старэйшы, Янка, закончыў Афіцэрскую пажарную школу ў Познані і зараз працуе ў Раённай камендатуры ПСП у Бельску-Падляшскім наместнікам раённага каменданта. Малодшы, Сцяпан, закончыў падафіцэрскую пажарную школу ў Варшаве і таксама прафесійна працуе пажарнікам у Бельску.

— Значыць, гэта ўжо сямейная традыцыя?

— Глядзіце на мяне і вучыцеся, — гаварыў я сваім хлопцам, калі заязджаў на службовым аўтамабілі ў Бельск-Падляшскі, дзе яны вучыліся. І навука не пайшла ў лес.

Мікола Шкода расказваў яшчэ пра сваю дзейнасць у гміннай радзе і нялёгкую долю земляроба. У 1967 годзе пабудаваў ён мураваны дом, абору, зараз гаспадарыць на 17 гектарах зямлі. Мае 7 кароў, 5 штук ялаўніка. Сыны абзавяліся сем'ямі і жывуць у Бельску. У Рыгораўцах застаўся сам Мікола з жонкай Ганнай. І так яны закорпаліся ў сваёй гаспадарцы, што не маюць калі ўнукаў сваіх у горадзе наведаць...

— А вы, — кідае на развітанне мой суразмоўца, — напішыце, што для нас, земляробаў, крышка прыходзіць. Як далей нам будуць плаціць так мала за літр малака, то не ў Еўрапейскі Саюз дойдзем, а жабракамі станем. Так і напішыце!

**Уладзімір Сідарук**

# Забойства ў Бандарах

На досвітку ў нядзелю, 17 жніўня, у Бандарах быў смяротна пабіты мясцовы дзевятнаццацігадовы юнак Павел Бура.

На месцы выселеных у геркаўскі перыяд ціхіх беларускіх вёсак сёння разлівае свае воды Семяноўскае вадасховішча, на берагах якога паявіліся і разрастаюцца, як і над большасцю вялікіх вадаёмаў, меншыя ці большыя адпачынковыя збудаванні, у іх ліку і прадбачаныя на большую колькасць карыстальнікаў развесяляльныя цэнтры. Адным з іх з'яўляецца клуб „Carino" на левабярэжным узгорку насупраць Бандароў, у якім кожную суботу, апрача постаў, ладзяцца танцавальныя ўсяночныя забавы. На гэтыя забавы прыязджае процьма моладзі; па некалькі аўтобусаў з далёкага на 50 кіламетраў Беластока, здараюцца аўтобусы з Гайнаўкі, ну і хто чым можа з бліжэйшага наваколля.

Яшчэ на досвітку, з суботы на нядзелю, у клубе „Disco Czar", які працуе ў будынку колішняй, слаўнай даўней на ўсю ваколіцу, бандарскай крамы Павел сядзеў з дзяўчынаю з Бандароў. Папівалі кока-колу, жавалі семкі сланечніка. Нехта прапанаваў выпіць, але Павел адмовіўся.

Хлопцы з Міхалова напалі на двух юнакоў з Беластока; Павел абараніў беластачан — быў высокі, стройны, важыў 92 кілаграмы.

Рана, перад пятай, калі збіраўся ён дахаты, сябры раілі яму, каб дадому не ішоў.

Зрабілі на яго засаду. Знячэўку ўдарылі парканінаю па галаве, а калі ён упаў, тады сталі біць бейсбольнымі кіямі. Нехта чуў, як адзін з бандытаў крыкнуў: Zabij Buraka! Такою клічкаю называлі яго ў Міхалове, дзе вучыўся ў Механічным тэхнікуме. На крык збегліся мо з 60 людзей. Ад аўтобуснага прыпынку хістаючыся ішоў Павел. Zapierdalaj szybciej, zapierdalaj, czego tak! — крычаў за ім адзін. Павел падышоў некалькі метраў і ўпаў на правы бок. Прыбеглі сябры і паднялі яго, аднак ён вырваўся ад іх і зноў упаў. Нейкія дваццаць-трыццаць метраў ад свае хаты.

У гатэль, дзе пражывалі дзеці з летняга лагера, прыбеглі два перапалоханыя юнакі. Адзін з іх сказаў, што забілі хлопца. Абудзілі дзіцячую лекарку і нехта яе завёз да Паўла. Прынялася яна за рэанімацыю.

Скорая дапамога з'явілася пасля амаль дзвюх гадзін. Паўлава сэрца ўжо не працавала, але калі лекар з „эркі" зрабіў укол, яно яшчэ зварухнулася, але мозг у раструшчанай галаве ўжо не спрацаваў.

Меў паламаныя рэбры і выбітую руку; калі ляжаў у труне, рука тая ападала.

Лекары, якія анатаміравалі Паўла, сцвердзілі, што прычынай смерці быў інфаркт.

Два гады таму ў парку ў Міхалове тамашнія кавалеры смяротна пабілі юнака з Лапаў. У гэтым годзе ў Міхалове пабілі мясцовага юнака; бандытаў адагнаў бацька хлопца. Хлопец не выжыў, праз два дні памёр; лекары, якія яго анатаміравалі, сцвердзілі, што прычынай смерці быў інфаркт.

Павел быў не толькі рослы і стройны, але і здаровы. Меў ён ліцэнзію воднага ратавальніка; каб яе атрымаць, трэба мець беззаганнае здароўе. Атрымаў ён і ліцэнзію пажарніка, для якое таксама патрэбна беззаганнае здароўе.

Павел быў вельмі дружалюбны; на яго пахавіны сышлося моладзі як вады. На месцы, дзе ён упаў апошні раз, пастаўлены крыж, перад якім не гаснуць лампадкі.

У Бандарах-вёсцы асталіся чатыры юнакі ад 15 да 20 гадоў. У сям'і асталася сястра, якая вучыцца ў сярэдняй школе.

Даўней у наваколлі Бандароў боек не бывала, нават між вёскамі хлопцы не біліся. Толькі ў Бахурах часамі адзін канец вёскі біўся з другім: каталікі з праваслаўнымі. А як пасля вайны павярталіся ўсе, якіх лёс параскідаў па свеце, наладзілі ў школе ў Рыбаках гасціну. Адзін, выпіўшы, хацеў пашумець, але другі пасароміў яго і ўсё супакоілася.

Цяпер у Бандарах-вёсцы страх з суботы на нядзелю з хаты выходзіць. Няма сну, толькі крык і лямант. Увесь час дарожныя знакі нішчаць, а пасля дарожнікі ездзяць і ладзяць.

І пра злачынствы людзі баяцца адкрыта гаварыць, толькі ананімна. Прыйдзецца ж, пэўна, афармляць справы ў Міхалове.

**Аляксандр Вярбіцкі**

Успаміны з мінулай эпохі

# Бязгрэшныя

Вясна, сяджу ў сваім прадметным кабінеце і папраўляю вучнёўскія сшыткі. У кабінет уваходзіць наша прыбіральшчыца (яна крыху пазней трагічна загінула) і пытае ці можна ўжо прыбіраць кабінет. Я згаджаюся, але бачу, што яна не надта рвецца прыбіраць яго, толькі нясмела пераступае з нагі на нагу і хітра ўсміхаецца. Значыць — прыбіранне — гэта толькі зачэпка. Яна проста мае нейкую справу да мяне, здагадваюся.

— Ну, не хітрыце, — кажу, — і гаварыце ў чым справа.

— А не пагневаецеся? — пытае.

— Не пагневаюся!

— Што вы зробіце з гэтай дзяўчынай? — пытае.

— З якой дзяўчынай? — здзіўляюся я.

— Як гэта з якой? — у сваю чаргу здзіўляецца яна. — Той, што вы прырабілі.

— А што ж і каму я прырабіў? — з дозай іроніі далей пытаю я.

— Што вы прыкідваецеся як малы, ужо ўвесь горад ведае, а вы яшчэ прабуеце скрываць. Вядома, што дзіця ўжо хутка радзіць будзе дзяўчына, а вы ўсё жартуеце.

Цяпер і я ўжо зразумеў у чым справа і трапляючы ў яе тон сказаў:

— А, вы пра гэта? Дык ясная справа, спачатку родзім дзіцятка, а потым гадаваць будзем, няхай расце на здароўе.

— Я так і знала і ўсім гаварыла, што вы не такі, і калі зрабілі дзяўчыне, то і ажэніцеся з ёю. А людзі не ўсе вераць...

Мяне гэтая справа пачала інтрыгаваць, але і непакоіць крыху:

„Як жа ж гэта так, увесь горад ужо гаворыць, а я нічога не ведаю, бо як і ведаць, калі, здаецца, ні перад кім такім грэхам не вінаваты. Але халера яго ведае, чаго ў гэтым жыцці і не бывае, — думаю. — Можа я лунацік?"

— То хаця скажыце, — звяртаюся да яе, — пра якую дзяўчыну вы гаворыце, бо ці то з адной дзяўчынай чалавек меў дачыненне?

— То аж так дрэнна з вамі?

— Каб ведалі. А з другога боку, ці ж гэта так дрэнна праверыць ці ты здольны быць бацькам?

— Я гавару пра тую, што працуе на пошце, у другім акенцы.

— А, з гэтаю, дык усё ў парадку, напэўна не астаўлю, — супакойваю кабету, бо перакананы, што з пошты ніякай дзяўчыны не ведаю і яны мяне не знаюць. — Але цяпер, то напэўна пазнаёмлюся з ёю, бо і час, калі ўжо ўвесь горад пра нас і наш грэх ведае, — паціхеньку сам з сабою разважаю.

Складаю сшыткі і заяўляю, што канец працы і іду на адпачынак, а на самай справе бягом спяшу на пошту, каб убачыць як выглядае дзяўчына, якой, — па словах нашай прыбіральшчыцы і ўсяго горада, — я так напаскудзіў. Заходжу і з нейкай трывогай падыходжу да патрэбнага мне акенца... і ў ім я бачу незнаёмую мне прыгожую і сімпатычную дзяўчыну. Адразу весялею і пачынаю шкадаваць, што прыбіральшчыца не мела рацыі. З такой дзяўчынай не толькі добра было б быць знаёмым, але і прадоўжыць свой род.

Калі я так уважліва ёй прыглядаўся, яна заўважыла гэта, моцна пачырванела і праз гэта яшчэ больш пахарашэла. Міленька запытала, з якой справай я. Адказваю, што прыватнай, але такой, якой у акенцы не аформім. Яна яшчэ больш чырванее і выходзіць. Пытаю:

— Вы чулі, што мы з вамі моцна саграшылі і грэх наш пачынае быць публічным здабыткам?

— Чула. Прабачце, я таксама невінавата. Гэта выдумка нашай суседкі, каб гэтым паклёпніцтвам абняславіць мяне...

— Ой, нічога тут страшнага, — прабую суцешыць яе. — Толькі лічу, што калі мы з вамі набылі ўжо такую рэпутацыю ў грамадстве, то не астаецца нам нічога больш, як і сапраўды хуценька саграшыць наконт гэтага...

Яна аднак не была схільная да граху. Ёй хапіла ўжо выдуманага людзьмі. І так мы, на жаль, расталіся бязгрэшнымі.

**Васіль Сакоўскі**

# З палону ў палон

**Пра беларускія долі-нядолі расказвае Аляксандр Грыгарук з Гарадзіска, Нарваўскай гміны, народжаны ў 1910 годзе.**

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

**У савецкім палоне**

Рускія пагналі нас у штаб. Выйшаў афіцэр і загадаў нам стаць у нацыянальных групах; беларусаў было мала, найбольш было палякаў. Палякаў і французаў адпусцілі. Каб я быў тады ведаў, што палякаў адпусцяць, а беларусаў не, дык назваўся б палякам. А то думаў, што рускія „сваіх" будуць трактаваць лепш, чым палякаў. А яны нас, беларусаў, пагналі ў лазню, а пасля да лекара, каб праверыў, ці здаровыя здабывалі Берлін. І датрымалі нас там аж да 9 мая, да здачы Берліна.

— За тое, что не поехали в Берлин на войну, поедем в Россию поработать, — сказаў капітан. І ў чэрвені дзве тысячы беларусаў і немцаў адправілі поездам на ўсход. У Маскве адну тысячу ад нас аддзялілі, а нашу тысячу павезлі ў Данбас; было там трыццаць беларусаў і апошнія немцы. Шасцярых нас завезлі ва ўласаўскі лагер у Макееўцы. Прыехала камісія з Масквы і, даведаўшыся, што мы беларусы з Польшчы, адправіла нас у міжнародны лагер у Горлаўку зруйнаваныя шахты чысціць; былі там чэхі, румыны, мадзьяры, балгары. Сустрэў я там земляка, Паўла Ясвіловіча з Сакоў, століяра. Ён мне кажа, што на другі дзень будуць выбіраць столяраў, і каб я падаўся столярам; так я і зрабіў.

Праз нейкі час прыйшоў лейтэнант і запатрабаваў траіх столяраў ладзіць скошаныя бамбёжкаю вокны і дзверы. І адзін паёк на траіх! Тыя два згаварыліся супраць мяне і я стаў слабець. Пайшоў я да чэха, які быў загадчыкам столяраў, і гавару яму, што мне так дзіўна ногі адна ад другую труць. Ён кажа: пакажы. Глянуў ён і кажа: ты спух, трэба да лекара ісці. Запісаў мне лекар лякарства: кілішак разведзеных у вадзе дражджэй. Прадаў я касцюм, які быў прыбраў у Кёнігсбергу, і купляў хлеб, бо больш нічога не было. Чэх кажа мне: рабі лапаткі кашу мяшаць, але далікатныя, каб тронкі ламаліся. І я тыя лапаткі ў кухню насіў, бо так не пускалі. І мне за тыя лапаткі ў кухні давалі суп. Тымі лапаткамі кухары дзень памяшаюць, паломяць, і зноў да мяне. І так насіў я ім тыя лапаткі і набіраў сіл.

Быў у лагеры і Ціталў партызан з Югаславіі, Карач называўся. Нічога ён не рабіў і добра жыў з усімі камандзірамі. Ён мне раз кажа:

— Будуць у кухню выбіраць, выступай кухарам.

— Дык і ты выступай за кухара.

— Але я нездаровы і мяне не возьмуць, — адказаў ён мне.

— А я таксама нездаровы...

— Я за цябе пахадайнічаю і возьмуць.

І так стаў я кухарам, і пасля да мяне ў ласку прыходзілі тыя столяры, якія хацелі мяне загаладзіць.

**Змаганне за вяртанне**

Аднойчы стаяў я з адным беластачанінам, а побач нас праходзіла камісія, якая прыехала з Масквы разглядаць справы прыгнаных з Польшчы салдатаў. Мы па-вайсковаму выструніліся на „смірна".

— Guten Tag! — сказаў нам маёр.

— Здравствуйте! — адказваем яму.

— Почему „Здравствуйте"?

— Бо мы не немцы і не палякі, толькі беларусы з Польшчы.

— Товарищ, — звярнуўся ён да нашага капітана, — вы делали справки об этих людях?

— Делал.

Капітан трымаў нас на фабрыцы перакладчыкамі нямецкай мовы. Перавялі нас у другі лагер, але і туды мела прыехаць тая камісія, і калі ён пра яе даведаўся, загадаў нам не выходзіць на працу, бо паедзем дадому. Даў нам грошы і хлеб, а мы яшчэ спыталі пра цукар.

— Вам сахара ожидать — за это время домой заедете.

Пайшлі мы да дырэктара, каб падпісаў нам разлік.

— А как же я их отпущу? У меня не будет переговорщиков с немцами, — сказаў ён капітану.

— Товарищ директор, я этих людей держал три месяца и больше не могу!

І адправіў нас, чатырох, са сваімі дакументамі, заміж выслаць у штаб у Сталіна (цяпер Данецк — А. В.). Мы прыехалі ў Бераставіцу, а нас не пускаюць — дакументы не такія, трэба ў Сталіна вяртаць. Паехаў адзін. Зайшоў з капітанам у штаб у Сталіне. Там капітана аблаялі, што нас пусціў, і капітан, выйшаўшы, сказаў нашаму выслланніку:

— Если ты ещё раз приедешь, то я так тебе дам по шапке, что ты больше меня не увидишь!

І вярнуўся ён да нас з нічым. Падаліся мы ў Баранавічы, а там ураднікі радзяць аставацца ў іх на работу, а мы не хочам, бо баімося, што як нас *прикрепят*, то ўжо і не пусцяць. Было там нейкае польскае прадстаўніцтва, дык мы туды падаліся, а яны вайсковымі не займаюцца і кіруюць нас у Гродна да Ванды Васілеўскай. Мы ў Гродна, а яна дзень раней выехала ў Мінск. Нам адзін чалавек раіў стаць на высрубку лесу пад гранічную паласу, а адтуль уцякаць дадому. Але мы рашылі ехаць яшчэ ў Брэст; адзін з сяброў сказаў: у мяне ёсць яшчэ гадзіннік, аддам я яго і нас праваднік перавядзе там цераз граніцу.

У Брэсце было прадстаўніцтва Польскага чырвонага крыжа і мы пайшлі туды. Там нам далі харчы і скіравалі на станцыю падштэмпеляваць дакументы. Мы сунулі нашы дакументы ў акенца, а лейтэнант, заміж паставіць пячатку „Выезд", паставіў пячатку „Въезд". Вярнуліся мы ў ПЧК, а там ужо нам афармілі выезд на наступны дзень раніцай. Мы на поезд, а нас вартаўнікі назад:

— Вы не уезжаете, у вас „Въезд"!

Мы кінуліся назад, а там тлум войска перад акенцам, у Расію салдаты вяртаюцца. Лейтэнант закрыў тое акенца, салдаты ў злосці паразыходзіліся, тады мы да яго. Ён паставіў нам патрэбныя пячаці і так мы выехалі.

Вярнуўся я ў Гарадзіска да бацькоў, якія ад канца вайны нічога пра мяне не ведалі; з нямецкага палону можна было весці перапіску, а ад саветаў — нельга. Дзень перад маім прыездам забралі ў турму майго брата, бо падчас акупацыі солтысам быў; прасядзеў ён год. А я пачаў хадайнічаць аб вяртанні маёй сасланай сям'і.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

*Пра сібірскую ссылку сям'і Аляксандра Грыгарука — неўзабаве.*

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны

**(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)**

**Частка XV**

Пасля вайсковай службы я пражыў у вёсцы Кунцаўшчыне да 1937 года. Крыху наладзіў гаспадарку, разлічыўся з даўгамі, аплаціў падаткі. Але ўзніклі суды за зямлю, пасля якіх я на гаспадарцы не мог далей жыць, пераехаў у Гродна. Жончын бацька памог купіць у Гродне невялікі домік, але доўга ў ім я не жыў. У 1939 годзе ў ліпені мяне прызвалі як рэзервіста на зборы, у Другі дывізіён 29-га палка артылерыі у Сувалкі. Дывізіёнам камандаваў тады капітан Шныгер, а 3-й батарэяй — падхаронжы Моматаў.

Яшчэ да пачатку вайны наш дывізіён знаходзіўся недалёка Гданьска (на „Паможы"), дзе 1 верасня 1939 года нас застала вайна. Ноччу наша вайсковая часць ледзь не трапіла ў нямецкае акружэнне. Мы ледзьве вырваліся з яго. На ранку 2 верасня мы былі ўжо ў Агустове. Пагрузіліся ў вагоны. Камандаваннем мне было даручана на платформе з двума кулямётчыкамі ахоўваць гарматы і скрыні з амуніцыяй. Стоячы на платформе я ў небе ўбачыў тры нямецкія самалёты, якія ляцелі проста на нас. Не паспеў я выстраліць з карабіна, як пачуўся аглушальны свіст бомбы і мяне хваляй паветра з платформы закінула за гранітную пагрузачную сценку („рампу"). Калі я прыйшоў да прытомнасці, то ўбачыў як гарэлі вагоны. Мяне лёгка параніла, са шчакі цякла кроў. З майго карабіна асколкам бомбы адшчапіла кусок прыклада. Перад вагонамі ляжала многа забітых жаўнераў. Іх падабралі санітары і цягнік рушыў у накірунку Гродна. Пакуль заехалі ў Гродна, нас некалькі разоў атакавалі нямецкія пікіроўшчыкі. Раніцай мы былі ўжо ў Гродне. Хаця хата знаходзілася амаль побач нашай станкі, заглянуць ў яе не было магчымасці. У ёй была мая жонка з малым сыночкам Генікам. З Гродна наш цягнік накіраваўся ў Беласток. Па дарозе, на кожным прыпынку, нас сустракалі з плачам жанчыны і дзеці. Памятаю, пад самы вечар мы былі ўжо ў Варшаве. Памятаю, як радасна сустракала нас Варшава. Жыхары сталіцы віталі нас на вуліцах. Мы ехалі на конях. Я, як наводчык, па-польску — цэляўнічы, са сваёй абслугай, нумарамі сядзеў на перадку арматы. Жанчыны, дзяўчаты і дзеці крычалі, віншавалі нас, падавалі жывыя кветкі. Жадалі сувальскім вякам перамогі над лютым ворагам, які напаў на Польшчу...

У Варшаве наш дывізіён на чале з капітанам Шныгерам, у тым ліку і трэцяй батарэяй, якой камандаваў падхаронжы Моматаў, а я быў наводчыкам, занялі абарону Варшавы перад фартамі „Бэма" — заходні рубеж сталіцы. Дывізіён выконваў функцыю „запора пшэціўчолгова мяста Варшавы" (процітанкавая заслона горада Варшавы). На гэтым адрэзку мы трымалі абарону да апошняга часу, пакуль не капітулявала Варшава. Перад нашай батарэяй, за мінным полем, за час ваенных дзеянняў 3-яй батарэі, стаялі падбітыя тры нямецкія танкі. Наша батарэя не адну атаку нямецкіх танкаў мужна адбівала, не давала ім уварвацца на вуліцы Варшавы.

Мне запомнілася адна жорсткая атака. Перад нашай батарэяй ноччу пяхота выкапала глыбокія траншэі. Пехацінцы заселі ў іх і падрыхтаваліся да абароны. Але не прайшло і паўгадзіны, як немцы адкрылі па гэтых траншэях ураганны артылерыйскі агонь. Пяхота не вытрымала. Не магла ўтрымацца нават некалькі гадзін. Снарады траплялі ў самыя акопы. Засыпалі салдатаў зямлёй. Мы, стоячы замаскаваныя за гэтымі траншэямі, добра бачылі, як пехацінцы, якія засталіся ў жывых, уцяклі, хто куды мог, падалі. Пасля такой ураганнай артылерыйскай атакі немцы думалі, што ў траншэі нікога ў жывых не засталося. Не ведалі, што за траншэямі замаскаваная стаіць наша батарэя. Пастанавілі захапіць гэтыя траншэі. Як толькі нямецкая пяхота падышла да траншэяў, на чале са сваім таўсцяком камандзірам, мы прамой наводкай адкрылі па немцах шквальны артылерыйскі агонь. Усё поле перад намі пакрылася дымам. Я толькі ўбачыў у біноклі, як тоўсты камандзір замахаў рукамі і зваліўся на зямлю, дзе расла на агародах капуста. Першая атака была адбітая, але не прайшло і паўгадзіны, як на нашу батарэю рушылі нямецкія танкі, хаця поле перад намі было замініраванае. Немцы з танкаў і арматаў адкрылі агонь. Пры армаце мы не маглі ўстаяць. Нас выратавала бамбасховішча. Праз некаторы час артылерыйская атака прыціхла, а калі мы выйшлі з бамбасховішча, то ўбачылі, што гармата стаіць перахіленая, з перабітым левым колам. Страляць з яе было немагчыма. На дапамогу нам прыслалі два кулямёты. Далі нам па два літры бензіну і запалкі. Адступаць не было куды. У гэты час нам паведамілі, што „жонд опусціл Варшавэ — вруці по сконьчонэй войне".

На гэтай пазіцыі нам давялося перажыць страшныя налёты нямецкай авіяцыі, штурмы пікіроўшчыкаў на Варшаву. Супроцьпаветранай абароны амаль не было. Мы бачылі толькі два польскія „мысліўскія самалёты", якія падымаліся ў паветра толькі пасля налётаў нямецкіх пікіроўшчыкаў, а праз некаторы час і іх не стала. Нямецкія пікіроўшчыкі бамбілі Варшаву бесперапынна. Адна эскадра канчала бамбіць, другая налятала. Варшава была ахоплена суцэльным агнём і дымам. Немцы штурмавалі Варшаву днём і ноччу. Вярхоўнае камандаванне польскай арміі перабралася з Варшавы ў Брэст. Камандуючым абаронай Варшавы быў назначаны генерал Ю. Румель. Андэрс узначальваў аператыўную групу войск па абароне сталіцы з поўдня, ёй было даручана не дапусціць пераправы праціўніка праз Віслу. Дарога цераз Прагу (прадмесце Варшавы) у выніку бамбардзіровак была разбурана. Шматлікія дамы былі ў руінах, на вуліцах барыкады з перавернутых машынаў. Аднак Варшава трымалася, не падала духам. Немцы некалькі разоў прапанавалі абаронцам Варшавы здацца, але страляніна працягвалася днямі і начамі. Разам з намі, вайскоўцамі, былі і цывільныя асобы, якія добраахвотна прымалі актыўны ўдзел у абароне Варшавы. Мне запомніўся адзін малады хлапец, які прыйшоў да нас і на маіх вачах загінуў. Я перажываў, як плакалі па ім бацькі, якія прыйшлі яго хаваць. Была з намі і адна студэнтка універсітэта, прозвішча добра не памятаю, якая з карабінам у руках абараняла сталіцу. Запомніўся сівы пажылы чалавек, казалі, што адвакат. Ён, уладкаваўшыся з кулямётам на трэцім паверсе недабудаванага дома, днямі і начамі паліваў градам куль наваколле, дзе былі немцы.

*(працяг будзе)*

**Апанас Цыхун**

# Падарожжа жыць навучыць

А дваццатай гадзіне на аўтавакзал у Беластоку падкаціў міжнародны аўтобус фірмы Jutaks. Не вельмі каб імпазантны, сярэдні сярэднееўрапейскі, крышку запылены і пацёрты. Білет я купіла ў аўтобуснай касе, у цане амаль 16 долараў. Каля аўтобуса завіхалася маладая прыгожая жанчына, відна, гаспадыня тут, апроч знуджанага вадзіцеля, які абыякава пaглядаў на ў гэты раз невялікія пакункі пасажыраў. Можна было купіць білет на праезд і ў сцюардэсы, за 10 долараў, хоць заўважыла: „Мы не можам весці на тэрыторыі іншай дзяржавы камерцыі, таму лепш купляць у Мінску білет у Беласток і назад".

— Нашы білеты самыя танныя ў Беларусі. Калі б браць пад увагу рэйсы польскае фірмы Biacomex, то білет на іхні аўтобус у Беласток каштуе 10 долараў плюс 100 беларускіх рублёў. З Мінска ў Беласток у нашай фірме заплаціце 500 тысяч рублёў. Да таго ў нас адзіныя рэйсы, дзе ў аўтобусе ёсць сцюардэса, плюс gratis за тое, што пасажыр едзе нашым аўтобусам, у Кузніцы частуем яго бутэрбродамі, кавай, мінералкай.

Аўтобус фірмы Jutaks з Мінска ад'язджае апошнім, у 23.30, хоць ужо ў 23.10, калі хочаце ў яго трапіць, трэба ў вадзіцеля купіць білет. Рэйс дзейнічае ўжо каля 3 месяцаў. Пасажыры, на жаль, мала пра яго ведаюць, бо мінскі цэнтральны аўтавакзал не хоча пра яго інфармаваць, каб таннейшая канкурэнцыя не адбірала пасажыраў. Да таго ж не дазволілі падстаўляць аўтобус там, дзе ёсць стаянкі, і шукаць трэба яго з другога боку вакзала, дзе менш пасажыраў. Вядома, прыходзіцца агітаваць. Перад гэтым якраз прыходзяць у Мінск расійскія цягнікі, адтуль людзі едуць займацца камерцыяй, і яны ў асноўным пасажыры таго рэйса.

Сённяшні рэйс для Алы Рамуальдаўны быў чацвёртым. У фінансавых адносінах адчувае сябе лепш. Дагэтуль працавала настаўніцай у 5 сярэдняй руска-беларускай школе (там вывучаюць і польскую мову; назваць яе можна мастацкім ліцэем), там выкладала міравую мастацкую культуру. Зарабляла аж 25 долараў! Нягледзячы на тое, што, вядома, праца ў сваёй прафесіі спадарыні Але падабалася, прыйшлося маладой настаўніцы шукаць такую работу, якая дазвалала б жыць ёй на больш людскім узроўні.

Не дзіўна, што кожны цягне туды, дзе цяплей і мякчэй. Я яшчэ ў Беластоку купіла білет назад, заплаціўшы, пералічваючы, тыя 16 долараў. Села ў Мінску а 19.30 у аўтобус, яшчэ пры сонцы, злуючыся, што раней не ведала пра той танны рэйс Jutaksa каля поўначы, а тут у салон забягае дыспетчарка мінская аўтавакзала, правярае білеты. Ухапіла мой і ў крык: „Вон з аўтобуса, заяц даўгавухі! Хто табе прадаў такі білет? У Беластоку?! У нас з ПКСам няма дамовы на продаж зваротных білетаў! А ўвогуле гэты білет ты наклапала сама на камп'ютэры, гэта ж эвідэнтная фальшыўка! Ну, убірайся прэч з аўтобуса!"

Нічога, што я раней ужо з такой жа справай была ў дырэктара беластоцкага ПКС. Дамова ёсць, наша білетная каса можа прадаць 2 білеты назад, апроч таго яшчэ два месцы ёсць у распараджэнні нашага вадзіцеля. Але качанаватаму бабзну ў форме можаш тлумачыць што хочаш! Можаш купіць, кажа, білет у нас, за долары. А адкуль мне іх узяць? Паказваю сваё службовае запрашэнне, на якім напісана, што заўтра маю быць ужо ў Беластоку, паказваю білет з Беластока ў Мінск, выдадзены той жа касай, дэманструю свой сціплы рукзачок. „За мяжу едзеш, грошы маеш!" — не сунімаецца дыспетчарка. Якія грошы? Я ж не займацца камерцыяй сюды прыехала, узяла стольکі, колькі трэба, ды ж меўшы білет назад спакойна хачу вярнуцца дадому... А тая зноў пра фальшывы квіток. Тут ужо прасіцца стаў і шафёр, які ж ведае, што мой білет сапраўдны і маю права ехаць на гэтым аўтобусе, і робіцца дзядзька ніжэй травы, каб толькі герадбаба не выкінула мяне з аўтобуса. Абяцае, што пойдзе з гэтым білетам да самога дырэктара, скажа касіршы, каб не рабіла больш такіх *памылак*... Цудам удаецца мне, „зайцу даўгавуxаму" і „фальсіфікатару", застацца ў **салоне** аўтобуса ПКС.

Ну, для мяне, чалавека, які шукае нагоды, каб натрапіць на благое і дурное, каб гэта апісаць і зганіць, гэта прыгода і досвед, але для „звычайнага" пасажыра? Ну так, браткове, едзьма Jutaksam, хоць абдзерты ён і трасе страшэнна ды чамусьці заўсёды, калі еду ў Беларусь, кола ў Гродне ў ім мяняюць. Але хоць будзеце мець ашчаднасць на падарожжы 40 злотых (якія я дадаткова патраціла, купляючы білеты ў касе ПКС), пагутарыце з прыгожай сцюардэсай (ну, хлопцы!) і нерваў менш страціце!

**Міра Лукша**

# III Бег зубра

3 кастрычніка г.г. на гмінным стадыёне ў Белавежы адбудзецца III Бег зубра ў рамках Кубка Польшчы па бар'ернаму бегу. У праграме бегі на дыстанцыях ад 800 м для наймалодшых да 10 000 м для сеніёраў.

Мерапрыемства арганізуе мясцовае Спартыўнае таварыства „Зубр" сумесна з Гмінная управай, Белавежскім асяродкам культуры, Надлясніцтвам Белавежа, Лясным тэхнікумам і Пачатковай школай у Белавежы. Фірма „Эра ГСМ" для найлепшых бегуноў ахвяруе сотавыя тэлефонныя апараты.

Спартыўным змаганням спадарожнічаць будзе канцэрт мастацкіх калектываў, фантавая латарэя і конкурсы для балельшчыкаў. Пачатак спаборніцтваў а гадзіне 10. **(гай)**

Адгалоскі

# Беластоцкі песімізм

Яўген Міранові́ч піша, „што ў Беластоку няма электарату, зацікаўленага адраджэннем беларускасці ў гэтым горадзе" („Ніва", н-р 36). Перш за ўсё невядома ці няма зацікаўленага электарату. Невядома таксама ці сцвярджэнне Я. Мірановіча вынікае з даследаванняў, ці ягонага асабістага меркавання. Ніхто таксама не даказаў, што беларускі электарат таму не ўдзельнічае ў выбарах да самаўрадаў, бо не зацікаўлены адраджэннем беларускасці. Такіх пытанняў можна паставіць болей, а адказ на іх можа даць толькі навуковае даследаванне. Але адказ, думаю, будзе пазней, бо ўсё ж існуе ў Беластоку універсітэт, а выбары неўзабаве, у кастрычніку.

Калі беларускія арганізацыі Беласточчыны не будуць прымаць удзелу ў выбарах, то дойдзе да таго, згодна з пастулатамі Яна Радкевіча з Бельска-Падляшскага, што нас, беларусаў, трэба замкнуць „gdzieś w rezerwacie, tak żeby nie trzeba było słuchać tej ruskiej mowy" (W. Maziarski, „Sennie, cicho, groźnie", „Gazeta Wyborcza" nr 208). Польскія нацыяналісты рыхтуюць нам рэзерваты, афіцыйная ўлада, як піша В. Мазярскі, не заняла ніякага становішча ў гэтай справе, а з другога боку Я. Міранові́ч — вядомы публіцыст — кажа, што не варта беларусам балатавацца на выбарах. Выходзіць на тое, што на надзейную грамадска-палітычную дзейнасць можа рашацца маладыя, бо сярэдняе пакаленне свядомых беларускіх інтэлігентаў здаецца ўжо ў змаганні за беларускасць. Бо як жа інакш разглядаць песімізм Мірановіча? Добра, што аптымізмам вее з Гайнаўшчыны і Бельска.

**Міхась Куптэль**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Снілася мне, што я кашу нейкую траву касой, заўзята, з размахам, на трох ці то лугах, ці то панадворках. Гляджу — а там ужо дагала я скасіла, ні траўкі, ні сена, ано голы пясок зрабіўся.

**Ніна**

Мне, Астроне, прысніўся дзіўны сон. Быццам бы я кудысьці ехаў самаходам. Раптам перада мною паявілася студня. Яна была вельмі глыбокая. Я спужаўся і затрымаў самаход.

Дальбог, Астронку, такі страх агарнуў мяне, што я не паехаў на другі дзень на экскурсію. Трэба было плыць паромам і я падумаў, што нешта можа здарыцца. Ці добра я зрабіў?

**Валодзя**

Даражэнькая Ніна! Калі сніцца зялёная траўка, можна спадзявацца працвітання, поспеху ў справах. Калі сніцца, што трава завяла — беднасць, няўдачы чалавека не мінуць.

Табе наогул прыснілася, што ты косіш з размахам траву. Ну, калі б яшчэ можна было дапусціць, што будзе з яе сена, дык можна было б спадзявацца поспеху, а мо нават буйнога прыбытку. А ты скасіла траву і не бачыш ні травы, ні сена, а толькі голы пясок.

Значыць, і на тваім жыццёвым загоне, замест спадзяванага прыбытку, стане пуста.

А ты, Валодзя, дарма турбаваўся. Студня не абазначае нічога кепскага, а наадварот, поспех у гаспадарцы і ў жывёлагадоўлі. Іншая справа, што гэта твая студня была вельмі глыбокая. І, можа, будзеш мець такія-сякія клопаты пры дасягненні тых поспехаў. Не ўсё, ведаеш, лёгка даецца.

Але, браце, баяўся ты дарма. Паўна, найбольш вады баяўся... Шкада, што ты на экскурсію не паехаў.

**Астрон**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4 774. Ян Карпюк (Забагонне) | 10,00 зл. |
| 4 775. Падставовая школа ў Любліне | 20,00 зл. |
| 4 776. Уладзімір Іванюк (Вітава) | 20,00 зл. |
| 4 777. Канстанцін Лукашэвіч (Беласток) | 30,00 зл. |
| 4 778. Галіна Маліш (Гайнаўка) | 10,00 зл. |
| 4 779. Хведар Нікалаюк (Бельск-Падляшскі) | 30,00 зл. |
| 4 780. Анджэй Волчак (Ляска) | 30,00 зл. |
| 4 781. Іаланта Вішнеўская (Гайнаўка) | 10,00 зл. |
| 4 782. Міхал Байко (Гайнаўка) | 20,00 зл. |
| 4 783. Мар'я Данілецкая (Гайнаўка) | 30,00 зл. |
| 4 784. Ян Алексяюк (Гайнаўка) | 6,00 зл. |
| 4 785. Валянціна Клімюк (Гайнаўка) | 10,00 зл. |
| 4 786. Тамара Еўдасюк (Гайнаўка) | 10,00 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 682 3016.

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-mail: niwa@kurier-poranny.com

Internet: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1999 r. upływa 5 grudnia 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Фрашкі пра нашых**

## *Свінскае*

Крыўдна свінні, калі яе з людзьмі параўноўваць.
Пра свіную інтэлігентнасць навука сказала нямала.
Ну, каб людзей, як падсвінкаў, у нос закальцоўваць
І не весці ў школу, а каб толькі — на сала!..

Каб не класці ў пялюшкі, а як парасятка
Па смярдзючай саломе рыльцам нявінным каб тыцкаць,
Шукаючы цыцку, узлазіць пад свінаматку,
Усё ў брудзе і гноі, ну, бо дзе ж тут памыцца?!.

І кахання нямашака, бо каханак вядомы —
Гмінны кныр. А каханка — тая рохля нямытая...
Ах, каб жыць у такім, у меру завідным доме...
Ці свіння падала б вам, людкове, капыта?!

**Вандал АРЛЯНСКІ**

**Паэмы пра нашых**

## *De revolutionibus*

Калісь, бывала, навучалі
Паводзін добрых і маралі,
Пашаны для аўтарытэтаў,
Што прыміляліся з партрэтаў.
Дарэктар, добры наш знаёмы,
Вучыўся ў той час бласлаўлёны,
Калі з прадшколля да матуры
Вучылі ведаў і культуры.
Чытаў ён Маркса, Дэмакрыта
Дый вызубрыў Адама Сміта.
А калі кнігі адкладаў,
Часам „Кацюшу" запяваў.
І вось, набраўшы процьму ведаў
Ён амаль усю Еўропу зведаў.
Дарэктар быў на думку многіх
Вучоным беззаганным, строгім.
І ездзіў ён па белым свеце,
Чытаў даклады і прэлекцыі
На тэмы розныя — без ліку.
Не меў ён водпускаў, канікул,
Калі бывае час прыгоды,
Калі душа ўсяе прыроды
З тваёю злучыцца душою
Ды цела расцвіце вясною.
Ды вось-такі яму ўдалося
Атрымаць водпуск аж пад восень.
Куды ж яму цяпер падацца? —
Пачаў дарэктар разглядацца.
На карту глянуў усхвалявана
І выбраў Татры — Закапанэ;
Мо згадзіць месца для нагляду
За ходам алімпіяды.
Ды, не чакаючы, са спехам
Адразу на вакзал паехаў.
Купіў білет, стаў на перон
І, як падставілі вагон,
Ён першым у купэ ўварваўся
Дый у куточку ўладкаваўся.
Купэйны кут, як ты мне мілы —
Люблю цябе з усяе сілы.
Заўсёды едучы ў дарогу,
Бягу к табе, як у бярлогу,
Павекі шчыльна закрываю —
Целам-душою спачываю.
А поезд-сокал, быццам вецер,
Нясе мяне кудысь па свеце.
Цяпер жа, як арол крылаты,
Ляцеў у польскія Карпаты.
Дарэктар ў Татрах нахадзіўся,
Гевонту з крыжам пакланіўся.
А прыгадаць тут будзе можна,
Што вернікам ён не быў набожным
І быў свядомы ўжо з малога,
Што святары сваяцей ад Бога;
Такі быў прынцып непахісны
Ў краіне паабапал Віслы.
Назад, у поездзе ў куточку
Дарэктар едзе ў адзіночку,
Але цягнік пад Жар-гарою
Спыніў свой ход для перастою.
Увайшоў святар, за ім дзяўчаты,
Бы за кватуха́й куранты.
Расселіся ў купэ на лаўцы
Быццам ў куратніку на градцы.
Шчабечуць пра закон, пісанне,
Пра веру, грэх і пакаянне.
Паломніцы, — дарэктар скеміў, —
Бо вопратка іх сціплай вельмі,—
Быццам калісь ў анахарэтаў,
Падзвіжніц і другіх аскетаў, —
І прадстаўляе апраметна
Завулкі, што вядуць у пекла.
Айцец-юнак тыя дарожкі:
Стан, грудзі, лона, губы, ножкі
Быццам разведчык вывучае
І, пэўна, важна разважае
Як так даць бой сваім крапілам
Па логаве нячыстай сілы.
І нат дарэктар аказаўся
Не гэтак сонным, як здаваўся;
Адкрыў ён рот, расплюшчыў вочы,
З куточка за падзеяй сочыць
І са здзіўленнем канстатуе,
Што у айчулька кроў пульсуе;
Дарэктар ведаў жа з малога,
Што пад танзурай толькі логас.
А нам жа ведаць хіба трэба,
Што нат айцец — не манна з неба,
Што ён — зямны, не духа тхненне,
Толькі звычайнае стварэнне,
Якое, — пакуль з праху ў прах, —
Калесіць увесь жыццёвы шлях:
Уздымы-спады, горы-даліны,
Уверх-уніз; амаль няспынна
Ідзе па Дарвіну змаганне
За выжыванне-існаванне.
Ну а па Фрэйду зноў — заўжды
Ўсё круціцца вакол п...

**Адам Маньяк**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 4. Майкл, амерыканскі астранаўт, які лётаў разам з Э. Олдрынам і Н. Армстрангам на „Апалоне-11", 7. круглы будынак з купалам, 8. горад між Магілёвам і Мсціславам, 9. адміністрацыйна-канцылярскі аддзел прадпрыемства, 10. французскі маркграф, які загінуў у 778 г. падчас паходу Карла Вялікага супраць баскаў; герой сярэдневяковага эпаса, 14. незапоўненае месца, 18. Вольга, беларуская паэтэса (нар. у 1945 г.), 19. Эдвін, амерыканскі астранаўт, які разам з Н. Армстрангам хадзіў па Месяцы, 20. стан бяссілля, 21. можа быць саламяная.

**Вертыкальна:** 1. карты, атрыманыя ў дадатак да здадзеных, 2. перакладзіна футбольных і хакейных варот, 3. дзяржава ў Пірэнеях, 4. самец качкі, 5. Джэймс, амерыканскі астранаўт, які лётаў на караблях „Джэмінай-7", „Апалон-8" і „Апалон-13", 6. японскі аўтамабіль, 11. Хачатур, армянскі пісьменнік і этнограф (1805—48), 12. амерыканскі касмічны карабель, на якім лёталі м.інш. М. Колінз, Э. Олдрын і Дж. Ловел, 13. культыватар, які даецца падчас уцёкаў, 15. ежа з начынкай запечаная ў выглядзе батона, 16. шумлівая група людзей, 17. састаўная частка фотапрыбораў і вока. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку 32 з нумара**

**Гарызантальна:** джала, лайдацтва, такса, татэм, кал, Варшава, анімізм, тук, танга, навой, Аляхновіч, адвод.

**Вертыкальна:** заранка, дойна, актэт, Лукашэнка, Артымовіч, тракт, музей, кат, лак, Уланава, амяла, невад.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Сустрэліся дзве сяброўкі:

— Чула я, што хочаш вярнуцца да свайго Юркі, хаця год таму пакінула яго...

— Гэта праўда, бо мяне аж чорт бярэ калі падумаю, што ён спакойна жыве з іншаю.

* * *

Перад канфесіяналам спавядаецца малады вернік:

— Ойча! Сужыў я цялесна з жанчынаю без шлюбу...

— Колькі разоў? — пытае ксёндз.

— Я сюды прыйшоў спавядацца а не хваліцца.

* * *

Вераломная жонка забаўляецца з каханкам. Раптам чуе, што вяртаецца дадому муж. Спахапляецца ды паказвае любімцу на вакно.

— Ці ты ашалела, — здзіўляецца каханак, — маю скакаць з трынаццатага паверха?

— Ну, не будзь ты такі забабонны.

* * *

Жонка ўзважваецца на вазе. Муж, паглядзеўшы на нарматыўную табліцу, інфармуе:

— Пры тваёй вазе павінна ты мець тры метры і пяць сантыметраў росту.

* * *

Бацькі прысыпляюць разбэшчанае дзіця.

— Можа яму нешта заспяваю, — прапануе жонка.

— Не, дарагая, — адказвае муж, — паспрабуем па дабрыні.

* * *

— Ты хіба закаханая?

— Вельмі! Не магу есці снедання, бо думаю пра яго. Не ем абеду, бо думаю пра яго і не ем вячэры, бо думаю пра яго.

— А спаць можаш?

— Не, я такая тады галодная, што заснуць таксама не магу.

* * *

— Уладзік з Крысяю былі заручаны дваццаць гадоў і не пабраліся шлюбам...

— Нічога дзіўнага: яна не хацела браць шлюбу, калі ён быў п'яны, а ён не хацеў, калі быў цвярозы.

* * *

— Скажы мне, дарагая, ці кахала ты кагосьці перада мною?

— Не, даражэнькі. Розныя мужчыны захаплялі мяне стройнасцю, інтэлігенцыяй, адвагай, сексуальнымі яксацямі, але цябе кахаю без усяго гэтага.